www.nv-online.info

№ 98 (4247)

12 снежня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

КАДРЫ

## На павышэнне…

Аляксандр Лукашэнка прызначыў новых кіраўнікоў Аператыўна-аналітычнага цэнтра і Службы бяспекі прэзідэнта Беларусі. Аб гэтым стала вядома па выніках праведзенай нарады з кіраўнікамі сілавога блока.

Начальнікам ААЦ прызначаны **Андрэй Паўлючэнка**, які да гэтага часу працаваў на пасадзе начальніка Службы бяспекі. **Дзмітрый Шахраеў** – да гэтага часу намеснік начальніка Службы бяспекі – па рашэнні прэзідэнта ўзначаліў гэту структуру.

Дзяржаўны сакратар Савета бяспекі **Станіслаў Зась** у адпаведных кадравых рашэннях заклікаў не шукаць нейкай падаплёкі. Ён адзначыў, што і Андрэй Паўлючэнка, і Дзмітрый Шахраеў сябе добра зарэкамендавалі на папярэдніх пасадах, але патрабаванне прэзідэнта заключаецца ў тым, каб ААЦ і Служба бяспекі працавалі ў звязцы. «*Кіраўнік дзяржавы зыходзіў з чыста дзелавых якасцяў аднаго і другога кіраўнікоў. Гэта рашэнне ўлічвае дзелавыя якасці і магчымасці афіцэраў*», – цытуе БЕЛТА Станіслава Зася.




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Какого допинга?!

Не собирался писать про Олимпиаду – но вот приходится. Повод появился. Один из членов правительства Республики Беларусь, а конкретнее – министр информации Александр Карлюкевич, высказался по случаю отказа Международного олимпийского комитета в праве участвовать сборной России в предстоящем спортивном празднике: *«Просто дикость какая-то! В идеале спорт должен примирять, консолидировать всех в устремлении к созиданию, строительству мирного сообщества. А сейчас складывается впечатление, что и спорт, как и медиаинформация, становится оружием совсем не мирным»*.

Читаешь – и диву даешься. Ощущение, будто господин министр все эти несколько лет – начиная с прошлой летней Олимпиады – жил на другой какой-то планете, что весь антидопинговый скандал прошел мимо него. А сейчас вот он включился в процесс – как в последний вагон уходящего поезда прыгнул и, задыхаясь, начал что-то там проговаривать проводнику, боясь, что тот его высадит на ближайшей станции.

В идеале спорт действительно должен примирять всех – об этом и в олимпийском гимне Пьера де Кубертена поется: «О, спорт, ты – мир!». Но еще более спортивным идеалам соответствует честность и открытость соревнований. Когда никто не пьет «химию», будь то таблетки или микстуры, которые снимают усталость, напряжение, наконец, ослабляют боль. Все должны быть в равных условиях. Так какие идеалы важнее?

Вы считаете отстранение от соревнований команды государства, чьи властные полномочия позволили создать небывалую систему лжи и обмана в спорте, дикарством, а само создание такой системы – цивилизованной нормой? Получается так.

Редактор газеты, опубликовавшей мнение уважаемого министра (мнение частное, но должность в тексте указана), когда-то публично предложил: давайте, мол, обсуждать не Собчак с Соловьевым, а собственные белорусские проблемы. Сказал, на мой взгляд, правильно. В данном случае и я не судьбу российских спортсменов обсуждаю, а заявление белорусского министра, и пытаюсь понять, зачем он вообще решил демонстрировать сочувствие и кому. Тем российским спортсменам, кто допинг не употреблял? Так их как раз на Олимпиаду допускают, причем даже Владимир Путин заявил, что не нужно мешать гражданам России выступать под нейтральным флагом на состязаниях – пусть, мол, поют гимн без музыки, в душе. Или экс-министру спорта Российской Федерации Виталию Мутко, которому пожизненно въезд на олимпийские мероприятия запрещен? Так ему сочувствовать не стоит – на мой взгляд. Его – если вина будет доказана – сажать в тюрьму надо.

Какого допинга вы вообще лезете в эту пахнущую мочой историю, граждане Республики Беларусь? Хотите продемонстрировать приверженность олимпийским идеалам? Или потрафить «старшему брату»? Лучше поддержите тех белорусских спортсменов, кто рвет сухожилия, багровея от боли, но допинг не применяет. Порадуйтесь за Дарью Домрачеву. Езжайте в школу олимпийского резерва по любому виду спорта и спросите у детей, что им нужно, чтобы еще более эффективно заниматься, – и помогите им в этом, раз уж вы состоите в правительстве суверенной страны. Но делать вид, что главная волнующая вас проблема – допинговые таблетки на чужой прикроватной тумбочке… Простите, но олимпийский комитет России повел себя умнее: они не стали отрицать очевидного и добились, по крайней мере для некоторых из своих сограждан, права встать на пьедестал – в случае честной победы.

Я вспоминаю того нашего (белорусского) спортивного функционера, который на прошлых играх развернул российский флаг и прошел с ним перед трибунами. Читая комментарии наших чиновников, мне кажется, что они получили какой-то дурной пример: публично выразите свою поддержку употреблению допинга – и вам квартира обломится. Дурной пример, конечно, заразителен, но нужно уважать и собственный статус, и свою страну, и своих спортсменов. Будьте патриотами – добивайтесь честной борьбы. Президент Международного олимпийского комитета все-таки не председатель Центризбиркома Беларуси, он не озвучивает результаты. Результаты видят миллионы людей во всех странах мира – и радуются, сопереживают, плачут вместе со спортсменами. Так пусть ни у кого не будет сомнений в том, что и спортсмены достойны такого сопереживания.

ГАЗЕТА — ЧЫТАЧЫ

## Згуртуемся!

Вас замбіруюць…

Хто? Розныя салаўёвы з расійскіх тэлеканалаў.

З імперскім імпэтам, бессаромна, з дапамогай хлуслівай казуістыкі яны штодзень ганьбяць наш гонар, прыніжаюць нас як народ, спрабуючы вытравіць з нашых душ нацыянальныя пачуцці, усё, што ляжыць у аснове **БЕЛАРУСКАСЦІ.**

“Народная Воля” – за шчыры патрыятызм, за любоў да роднай зямлі.

Давайце, шаноўныя суайчыннікі, згуртуемся і адкрыта скажам “Не!” тым, хто, вылузваючыся са скуры, хоча ператварыць нас у манкуртаў, а нашу Беларусь – у “Северо-Западный край”.

Згуртуемся вакол “Народнай Волі”! Чым больш будзе ў яе падпісчыкаў, чытачоў, тым мацней будзе гучаць наш агульны голас у абарону Беларусі, у абарону сваіх грамадзянскіх і нацыянальных правоў.

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

Нагадваем: аформіць падпіску на першую палову 2018 года можна па 26 снежня (уключна) у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку”. Цяжкасці з фінансамі – можаце падпісацца не на 6 месяцаў, а на больш кароткі тэрмін: на квартал, два месяцы, месяц. Прадоўжыць падпіску зможаце ў любы час.

Будзем разам!

**Рэдакцыя газеты “Народная Воля”.**

СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

## Першы Усебеларускі з’езд 1917 года прадэманстраваў каштоўнасці, значныя і для цяперашняга дня



Вялікая Беларуская Рада, якая ініцыявала скліканне Усебеларускага з’езда 1917 года.

Гэта словы з прывітання Аляксандра Лукашэнкі гасцям і ўдзельнікам канферэнцыі “Падзеі 1917 года ў гістарычным лёсе Беларусі”, якая адбылася некалькі дзён таму. Сімвалічнасць іх у тым, што змест іх рэальна пераклікаецца з сённяшняй сітуацыяй: у беларусаў найвялікшае жаданне жыць у сваім доме. А ідэя самавызначэння беларускага народа выразна акрэслілася ў скліканні І Усебеларускага з’езда.

“Гэты народны сход прадэманстраваў найважнейшыя каштоўнасці, значныя для нас і да цяперашняга дня: сваю дзяржаву, яе сацыяльны характар і той факт, што толькі народ, яго воля, калектыўны розум і лідары могуць стаць сапраўднай крыніцай незалежнасці”, – адзначалася ў прывітанні А.Лукашэнкі.

Як вядома, Першы Усебеларускі з’езд прайшоў у Мінску 5–17 снежня 1917 года ў гарадскім тэатры. Ён быў скліканы па ініцыятыве Вялікай Беларускай Рады. У ім бралі ўдзел беларускія палітычныя дзеячы ўсіх губерняў, а таксама прадстаўнікі беларускамоўных паветаў Ковенскай і Віленскай губерняў. Усяго налічвалася 1872 дэлегаты. Старшынёй абралі кіраўніка Беларускай вайсковай рады Янку Сераду, які ў будучым стаў першым старшынёй Рады БНР.

З’езд абвясціў права беларускага народа на **незалежнасць і самавызначэнне.**

З’езд сфарміраваў Раду, у склад якой увайшоў 71 прадстаўнік розных палітычных партый. На жаль, бальшавікі разагналі з’езд, але крок да незалежнасці Беларусі быў зроблены. Праз тры месяцы, 25 сакавіка 1918 года, была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

*(Пра працяг І Усебеларускага з’езда чытайце на 2-й стар.)*

БЛИЦ

Як вядома, Расія адмяніла датэрміновае галасаванне падчас выбараў. Пры тым, што па тэрыторыі краіна ў шмат разоў пераўзыходзіць Беларусь і там з-за вялікіх адлегласцяў нейкая частка электарату сутыкаецца з пэўнымі цяжкасцямі.

І ўсё ж, каб выключыць махлярства з “выязнымі урнамі”, нашы ўсходнія суседзі вырашылі праводзіць волевыяўленне народа ў адзін дзень.

Паколькі мы, беларусы, знаходзімся напярэдадні чарговых выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў, то міжволі ўзнікае пытанне:

## Ці ёсць неабходнасць у датэрміновым галасаванні?

**Алена АНІСІМ, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу:**

– Мне падаецца, што важна, каб не было датэрміновага галасавання падчас такіх значных кампаній, як парламенцкія і прэзідэнцкія выбары. Што тычыцца мясцовых, то і наогул не бачу сэнсу ў такой норме. Тым больш што выбары праходзяць у выхадны дзень.

**Пётр КОСАР, намеснік генеральнага дырэктара ААТ “Мінскі аўтамабільны завод”:**

– Не ўсе ж могуць прагаласаваць у дзень выбараў, таму трэба даць магчымасць зрабіць гэта раней.

**Юрый ХАШЧАВАЦКІ, кінарэжысёр:**

– У Беларусі не патрэбна датэрміновае галасаванне ў тым выглядзе, у якім яно існуе зараз, бо дае шмат магчымасцяў для фальсіфікацый. І практыка паказвае, што часам вынікі датэрміновага галасавання вельмі адрозніваюцца ад тых, што былі ў асноўны дзень выбараў. Увогуле, у краінах, дзе выбары праводзяцца цывілізавана, вынікі датэрміновага галасавання не вельмі ўплываюць на агульную карціну. Гэта больш рэверанс у бок правоў выбаршчыкаў. Але ў нас з дапамогай гэтага інструмента ў некаторых выпадках усё пераварочваюць з ног на галаву.

**Дзяніс САДОЎСКІ, адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя»:**

– Прадстаўнікі ўлады спасылаюцца на тое, што, маўляў, у многіх заходніх краінах таксама ёсць датэрміновае галасаванне, але ж давайце не будзем параўноўваць узровень празрыстасці выбараў у іх і ў нас. Вы кажаце, што і ў Беларусі выбары дэмакратычныя? Дык дакажыце на справе, а не на словах. Адмяніце датэрміновае галасаванне, уключыце прадстаўнікоў апазіцыі ва ўчастковыя камісіі, зрабіце падлік галасоў публічным. Чаму на гэта не ідуць? Асабіста я для сябе маю адказ на гэтае пытанне.

**Марыя МАМАШУК, сярэбраны прызёр Алімпіяды-2016 па вольнай барацьбе:**

– На мой погляд, датэрміновае галасаванне павінна быць, таму што, напрыклад, у спартсменаў – жыццё на чамаданах. І калі нехта хоча выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю, то з-за спаборніцтваў не заўсёды атрымліваецца, бо падчас асноўнага дня галасавання можаш знаходзіцца на спаборніцтвах.

**Франц ЖЫЛКО, бізнесмен:**

– Не разумею, навошта такой кампактнай краіне, як Беларусь, патрэбна датэрміновае галасаванне? Няма ў гэтым вялікай неабходнасці. У асноўным людзі стала жывуць на адным месцы, і пры вялікім жаданні не праблема для чалавека схадзіць на выбарчы ўчастак. Калі б у дзень галасавання вялізныя чэргі стаялі да выбарчых скрыняў, дык яшчэ можна было б нейкім чынам апраўдаць папярэдняе галасаванне. Але ж няма ніякіх чэргаў. Больш за тое! Навошта папярэдняе галасаванне, калі да мяне падчас нейкіх выбараў нават дадому прыязджалі са скрынямі сябры выбарчай камісіі ў дзень асноўнага галасавання? І гэта пры тым, што я не “глыбокі” пенсіянер і сам у стане пры жаданні прагаласаваць. Навошта ж траціць дзяржаўныя сродкі?

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПЛАНЫ

## 200 мільёнаў долараў…

Тавараабарот Беларусі і Малдовы да канца 2017 года павінен скласці 200 мільёнаў долараў ЗША, заявіў прэм’ер-міністр Малдовы **Павел Філіп**.

У гэтыя дні праходзіць візіт прэм’ер-міністра Малдовы ў нашу краіну, ён бярэ ўдзел у беларуска-малдаўскім бізнес-форуме.

ЧУЛІ?

## З пачатку года цэны выраслі толькі на 4,4%

Паводле дадзеных Белстата, за лістапад цэны і тарыфы выраслі на 0,5%. Найменш – нехарчовыя тавары, усяго на 0,1%.

Агулам за 11 месяцаў ад пачатку года інфляцыя складае 4,4%, гэта найніжэйшы паказчык у гісторыі Беларусі.

За 2006 год цэны выраслі на 6,6%, гэта быў перыяд стабілізацыі ў эканоміцы. А ў 1993 годзе інфляцыя дасягала 1997%.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Падманулі на 80 тысяч долараў

У Гродне пачаўся суд па справе аб махлярстве, калі ўдзельнікі арганізаванай групы інсцэніравалі ДТЗ і зараблялі на страхоўках.

На лаве падсудных 24 чалавекі. Самаму малодшаму ўдзельніку 21 год. Большасць фігурантаў ва ўзросце 20–30 гадоў.

Злачынцы выкарыстоўвалі простую схему. Шукалі пашкоджаныя аўтамабілі і іх уласнікаў. На дарозе інсцэніравалі ДТЗ, калі пашкоджаная машына і машына аднаго з удзельнікаў злачыннай групы сутыкаліся. Пасля ўласнік пашкоджанай машыны звяртаўся ў страхавую кампанію па страхавую выплату, нібыта адбыўся страхавы выпадак. Вядома, што агульная сума маёмаснай шкоды, нанесенай злачынствам, склала больш за 158 тысяч рублёў (каля 80 тысяч долараў). Сярод пацярпелых кампаній: “Белдзяржстрах”, “Белнафтастрах”, “Промтрансінвест”, “Таск”.

Разгляд справы абяцае быць доўгім. На стале ў суддзі 25 тамоў справы.

СІТУАЦЫЯ



## Ці атрымае Станіслаў Шушкевіч 396 рублёў прыбаўкі да пенсіі?

*Першы кіраўнік незалежнай Беларусі звярнуўся ў Акадэмію навук з заявай аб даплаце за званне члена-карэспандэнта АН.*

Гэтае навуковае званне **Станіслаў Шушкевіч** атрымаў яшчэ ў савецкія часы. Шушкевіч – радыёфізік, мае Дзяржаўную прэмію БССР за 1988 год. Аднак, калі ў сучаснай Беларусі паводле ўказа А.Лукашэнкі вучоным пачалі выплачваць надбаўкі за навуковыя званні і ступені, Шушкевіча са спісу атрымальнікаў выкраслілі. Таксама гэтай надбаўкі пазбавілі вядомых вучоных, якія жывуць за межамі краіны, – напрыклад, сусветна вядомага матэматыка акадэміка **Уладзіміра Платонава** і заснавальніка і прэзідэнта ЕГУ акадэміка **Анатолія Міхайлава**. Але Шушкевіч увесь час жыве ў Беларусі.

– Гэта было яшчэ ў тыя часы, калі Акадэмію ўзначальваў **Аляксандр Вайтовіч,** – расказвае Станіслаў Шушкевіч. – Сёння ён у апазіцыі да ўлады, а тады… Ён патэлефанаваў мне і пачаў такую гаворку, што, маўляў, надбаўку трэба пацвердзіць навуковымі дасягненнямі… На што я адказаў: “Ты атрымаў загад пазбавіць мяне членкараўскіх, вось я іх і пазбаўлены…” Усё гэта былі старанні Вайтовіча, каб дагадзіць Лукашэнку. У 1997 годзе Лукашэнка мяне пазбавіў пенсіі кіраўніка дзяржавы і працягваў гэтую агідную практыку.

**– З тых часоў вы ні разу не ўздымалі гэтае пытанне. Што зараз змянілася?**

– Напрыканцы 1990-х я разумеў, што магу зарабляць болей, чым гэтыя членкараўскія. Трэба было толькі ездзіць, чытаць лекцыі. А цяпер – узрост, здароўе здало. Я спадзяюся, што, у адпаведнасці з існуючым заканадаўствам, з новага года мне гэтую даплату змогуць аднавіць, і падаў заяву.

**– Але ж надбаўку даюць не за былыя дасягненні, з вучоных штогод патрабуюць справаздачы аб навуковай дзейнасці…**

– Відавочна, што калі мяне пазбаўлялі надбаўкі, то нейкім чынам гэта абгрунтавалі: маўляў, Шушкевіч адарваўся ад навукі. Але я яшчэ Вайтовічу казаў, што, калі яго запросяць у Кембрыдж, Оксфард, Ельскі ўніверсітэт, што ён тады скажа? Што адарваўся ад навукі? А мяне запрашаюць. Для мяне гэты крытэрый значна больш важкі, чым меркаванне прыдворных вучоных. Я не магу эксперыментальнай фізікай займацца, знаходзячыся ў такім становішчы, у якім я. І гэта, дарэчы, не патрабуецца па заканадаўстве. Даплаты за акадэмічныя званні даюцца і вучоным-пенсіянерам за навуковыя заслугі. У мяне іх хапае.

**– Калі ўсё атрымаецца, станеце багатым! Апошнія гады вам жа пачалі выплачваць звычайную пенсію па ўзросце замест тых капеек, што плацілі як былому кіраўніку Вярхоўнага Савета…**

– Пенсію па ўзросце два гады таму тайна афарміла жонка. А як усё атрымалася? Мы пачыталі з ёю, што часам адбываецца з нашчадкамі, калі яны дзеляць нейкую маёмасць, і я напісаў жонцы генеральную даверанасць, што яна можа ад майго імя рабіць што хоча. І яна, карыстаючыся гэтай даверанасцю, мяне “аблапошыла”: пайшла ў сацыяльную службу і афарміла пенсію па ўзросце.

**– І колькі атрымліваеце?**

– На лекі, якія мне прапісаны, не хапае. Трэба тры такія пенсіі…

**– Як выжываеце?**

– Яшчэ тое-сёе здольны зрабіць, варушуся, але ўжо не так, як раней.

Я павінен быў атрымліваць прыстойную пенсію, але Лукашэнка адмяніў пастанову Вярхоўнага Савета аб пажыццёвай пенсіі былым кіраўнікам дзяржавы, падпісаў свой дэкрэт, якім каму захацеў, таму прызначыў пенсію ў залежнасці ад заробкаў дзеючых прэм’ера, спікера парламента, а мне**, Георгію Таразевічу, Сямёну Шарэцкаму, Мечыславу Грыбу і Міхаілу Чыгіру** пенсію пакінуў на тым узроўні, на якім яна знаходзілася на момант падпісання дэкрэта. Адразу гэта было 300 долараў, але страшэнная інфляцыя, якая пануе ў Беларусі, хутка “з’ела” гэтыя грошы. Апошнія 10 гадоў мая пенсія складала ў пераліку на сённяшнія грошы 32 капейкі!

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

АВАЛЬНАЯ ЗАЛА

## Па справах беларусаў замежжа…

У Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу з'явіцца рабочая група па справах беларусаў замежжа. Яе ўзначаліць старшыня пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы, гісторык **Ігар Марзалюк**. З боку Палаты прадстаўнікоў у яе склад увойдуць дэпутаты **Вольга Папко, Валянціна Ражанец** і старшыня «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» **Алена Анісім**. Да іх таксама далучацца члены Савета Рэспублікі.

У прэс-службе нагадалі, што ў 2014 годзе быў прыняты закон «Аб беларусах замежжа». Адпаведны законапраект быў падрыхтаваны Міністэрствам замежных спраў і Міністэрствам культуры пры ўдзеле іншых міністэрстваў і ведамстваў. Дакументам рэгулюецца парадак аднясення асоб да беларусаў замежжа, а таксама рэгламентуюцца меры іх дзяржаўнай падтрымкі.

ДАРЭЧЫ

## Пры змене ўладальніка аўтамабіля тэхагляд праходзіць не трэба

Савет міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову ад 6 снежня 2017 г. №933, якая ўносіць змяненні і дапаўненні ў Дакумент аб парадку правядзення дзяржаўнага тэхнічнага агляду транспартных сродкаў і іх допуску да ўдзелу ў дарожным руху (зацверджаны пастановай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 красавіка 2008 г. №630).

Дакументам скарэкціраваны пералік выпадкаў, пры якіх работнік УП «Белтэхагляд» пераносіць адзнаку ў дакумент (сертыфікат) аб праходжанні дзяржтэхагляду. Так, адзнака пераносіцца пры:

– унясенні змяненняў у пасведчанне аб рэгістрацыі транспартнага сродку (тэхпашпарт);

– выдачы дубліката пасведчання аб рэгістрацыі транспартнага сродку;

– выдачы новага дакумента (сертыфіката) аб праходжанні дзяржтэхагляду;

– дзяржрэгістрацыі транспартнага сродку новым уласнікам у перыяд дзеяння дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху.

Пастанова ўваходзіць у дзеянне з 1 студзеня 2018 года.

ЗАКУЛИСЬЕ

# «Ее гипс совпал с моей аварией...»

На минувших выходных депутат Палаты представителей Анна Канопацкая собирала подписи за выдвижение своего помощника Дениса Тихоненко, который решил баллотироваться в депутаты местного Совета. Фото Канопацкой, которая стоит перед дверью с загипсованной ногой и костылями, собрало немало самых разных отзывов.



Одни переживали: буквально недавно Канопацкая сломала ногу и почти месяц была в гипсе, неужели снова неудачно поскользнулась?

Другие сочли сбор подписей с гипсом на ноге неудачным депутатским пиаром.

А третьи вообще выстроили почти конспирологическую версию и предположили, что Канопацкая вместе со своим помощником угодила в автомобильную аварию в Италии, в которой также сильно пострадали жена и дочь Тихоненко.

«Народная Воля» не стала ходить вокруг да около, а уточнила все подробности у Дениса и Анны.

– Я был против, чтобы Анна в гипсе шла со мной собирать подписи, – *рассказывает Денис Тихоненко*. – Но переубедить ее оказалось невозможно – у Анны большое чувство ответственности, и она сказала, что посвятит несколько часов своего времени этому мероприятию. Тем более что ее гипс совпал с моей аварией. Анна к этому ДТП никакого отношения не имеет.

**– Расскажите, пожалуйста, про это страшное ДТП...**

– Авария случилась за пределами Беларуси, потому что у меня в Италии есть, как я в шутку говорю, дача – я снимаю жилье, там живет моя семья. На выходные я по возможности стараюсь приезжать к ним. В горах мы попали в аварию, сильно разбили машину. Пострадали все, кроме меня. Подруга семьи, можно сказать, отделалась ссадинами, царапинами и ушибами. Больше всех пострадала жена – у нее серьезный перелом тазобедренного сустава. Сейчас она находится в итальянской больнице, а я с дочкой прилетел в Минск. Дочке три года, у нее сильный ушиб головы, но ни сотрясения, ни серьезной травмы, к счастью, нет. Только шишки и синяки огромные. Врачи говорят, что нужно время, чтобы все это прошло. Сейчас ищу няню, которая могла бы присматривать за ребенком.

Жене, по словам врачей, потребуется как минимум восемь месяцев на реабилитацию. На днях прошла операция, вроде бы все хорошо. Ну как хорошо… Мы шутим, что теперь она будет все время звенеть в аэропорту, потому что ей поставили металлическую пластину – тазовые кости невозможно обездвижить гипсом.

**– Почему случилась авария? Не справились с управлением авто из-за гололеда?**

– Мы ехали из Германии в Италию, переезжали Доломитовые Альпы, там перевалы, серпантин. Полиция моей вины в том, что случилось, не увидела. Гололед прихватил часть дороги. Мы ехали в половине пятого вечера, асфальт подмерз. Полицейские изучили чуть ли не каждый метр того участка, на котором машину начало заносить, крутить во все стороны, и в протоколе написали, что это вина дорожных служб, которые не обеспечили безопасность дорожного покрытия. К этому вопросу очень серьезно относятся в Италии, особенно в горах. Дороги всегда посыпают противоледными смесями. Сейчас дорожные службы должны компенсировать мне все затраты на лечение, возместить ущерб. Но это все потом. Сейчас для меня главное – восстановление здоровья супруги и выборы.

**– А с машиной что?**

– Ну, наши кулибины ее наверняка восстанавливали бы, но в Италии она просто пойдет на свалку. Потому что ремонт будет стоить примерно такие же деньги, за которые если не сразу, то немного поднакопив, можно будет взять в лизинг новый автомобиль.

**– У вас же был «Мерседес»?**

– Да, не новый уже «Мерседес» 1997 года. Восстановление стоит около 5 тысяч условных единиц, а самой машины стоимость сейчас в Италии – 500 евро. Старые машины там никому не нужны.

В принципе, у нас была мысль после Нового года купить новое авто, а это продать, но получилось вот так. Мы с женой, как в анекдоте, смеемся: слава Богу, что взяли деньгами, а без машины пока полежим в больнице. Мы не сильно переживаем: у нас еще есть семейный минивэн «Фиат». Вообще, без машины в Италии тяжело, тем более мы дом в горах снимаем.

**– Если не секрет, дорого обходится дача в Италии?**

– Если это не дом на хуторе, а какой-то городской поселок, то квартира в многоквартирном доме площадью около 100 квадратных метров будет стоить где-то от 500 евро в месяц. Но, конечно, все зависит от того, кто сдает дом и на каких условиях. Например, мы снимаем трехэтажный дом (общая площадь 300 метров) за 450 евро плюс коммуналка, отопление.

**– И сколько в месяц набегает?**

– Честно говоря, сложно сказать, потому что там счета за свет, за воду приходят раз в два месяца, отопление у нас индивидуальное – свой котел. Я раз в год заливаю 200 литров солярки и все. Я как-то пытался подсчитать – где-то в день мне обходилась себестоимость в 3 евро, если на весь год разбить. Так что примерно около 100–150 евро уходит на коммунальные расходы. Летом – меньше, зимой – больше. Зимой надо топить, а топливо – газ, солярка – они в Италии дороже намного, чем у нас. Газ мы покупаем баллонами. Баллон на 15 или 20 литров (точно не знаю) – стоит 60 евро, полтора евро – литр солярки. Свет – примерно как у нас 100-процентный тариф на электричество, я сравнивал этот момент. За воду мы платим так: раз в полгода приходит человек, смотрит на счетчики. Вода тоже дороже, чем у нас.

**– Я так понимаю, вы давно этот дом снимаете?**

– Да, я уехал после выборов 2010 года. Тогда в обществе было большое разочарование, и мы плюнули на все и уехали. Получается, в декабре уже будет семь лет.

**– А почему именно Италия?**

– Так сложилось… У супруги там были знакомые. И это был весьма удобный вариант, и к тому же не самый дорогой. Мы были рады, когда он подвернулся. Ну и к тому же супруга у меня по образованию менеджер в сфере туризма, мы немного еще и туризмом там занимаемся, сдаем жилье, жена экскурсии организовывает.

**– Семья в Италии круглый год живет?**

– Мы стараемся приезжать регулярно – раз в три месяца как минимум. У нас же здесь бабушки, дедушки… С того момента, когда Анна Канопацкая выиграла выборы и мы решили, что я буду ей помогать, я, конечно, практически все время в Беларуси нахожусь. К семье приезжаю на выходные, летом в отпуск.

**– Жена не возмущается, что видит вас далеко не каждый выходной? Она там одна с ребенком…**

– Мы с ней договорились, что пока есть реальная возможность что-то изменить в Беларуси, в том числе благодаря Анне Канопацкой, которая попала в парламент, она потерпит.

Я считаю, лучше сделать и потом пожалеть, чем ничего не сделать и тоже пожалеть. Может, конечно, через четыре года снова закрутят гайки и законсервируется все еще на 20 лет… А может, что-то и изменится в лучшую сторону. Благодаря нашим усилиям.

**– Жизнь на две страны – немалые расходы. И у многих давным-давно сложился стереотип, что белорусские оппозиционеры – люди нищие, нигде не работают, больших доходов не имеют. Ваш пример говорит об обратном. Можете рассказать, как зарабатываете?**

– Я не скрываю: работаю помощником депутата Канопацкой, моя зарплата – 600 рублей. До отъезда в Италию у меня в Беларуси была консалтинговая фирма, мы занимались консультированием инвесторов по ведению бизнеса в нашей стране, предлагали открывать им в нашей стране заводы, магазины, любые другие предприятия. В основном у нас были клиенты из России, но были и из Европы. Потом был финансовый кризис, девальвация, и я принял решение здесь фирму закрыть, а бизнес перевести за границу. Я открыл такую же фирму в Европе, она хорошо работает, у нас нет проблем с клиентами. К тому же неплохую прибыль приносит туристический бизнес.

Но, кстати, на свою зарплату помощника депутата я тоже могу позволить себе летать в Италию. Билет из Вильнюса в Италию стоит 15 евро…

**Марина КОКТЫШ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

### Анна КАНОПАЦКАЯ: «Все не так страшно, как кажется…»

– Это не новый перелом, а последствия февральского – воспалились связки и сухожилия, и врач порекомендовал буквально две недели походить в гипсе, – *рассказала Анна Канопацкая про свой гипс «Народной Воле»*. – Это даже не гипс, а лангета. Спасибо, конечно, всем за поддержку и переживания, но все не так страшно, как кажется…

УТРАТА

## Актер с брутальной внешностью и неподкупной душой



Белорусский театр потерял талантливого актера Ивана Ивановича Мацкевича. Белорусский – в смысле театр всей нашей страны. А служил Иван Мацкевич сначала в Брестском областном театре, а последние 20 лет – в Национальном академическом драматическом театре имени Максима Горького. Имел звание заслуженного артиста, должность – ведущий мастер сцены. Если и не по ролям, то в лицо его знала без преувеличения вся наша страна, а возможно, также и соседняя Россия. Мацкевич очень много снимался в кино, был востребован как авторским кинематографом – главный герой в кинофильме "Хрусталев, машину!" Алексея Германа, так и сериальной киноиндустрией, где чаще всего исполнял роли генералов, директоров, управляющих, адвокатов. И очень, очень редко – контрабандистов.

У него была внешность безукоризненно порядочного человека. Брутальная, мужская внешность. И неподкупная душа. Как сказал народный артист, режиссер Борис Иванович Луценко, внешние и внутренние данные Мацкевича совпадали. Иван Иванович был богатой натурой: сильной, разнообразной, органичной.

Еще в воскресенье утром Мацкевич вместе с актрисой Екатериной Шатровой репетировал новый спектакль "Зойкина квартира" М.Булгакова. Он буквально горел ролью – через две недели должен был выходить на сцену. Репетиция закончилась в два часа дня. В начале третьего актеры узнали страшную новость – Иван Мацкевич умер. Сердце. Несколько лет назад ему сделали шунтирование, и он чувствовал себя хорошо. Разве что последние недели был бледнее обычного. Екатерина признается, что известие о кончине Ивана Мацкевича повергло ее в шок: "У нас в театре до сих пор стоят рыдания – его все любят… Извините, но я не могу сказать о нем в прошедшем времени: "Его любили…" Ведь только что вместе смеялись, он рвался в бой и… Такое чувство, будто человек умер у меня на руках".

Народный артист Александр Леонидович Ткаченок сказал, что многие спектакли в Русском театре теперь осиротели, потому что нет замены этому человеку, этому талантливому артисту. "Пане Коханку", "Лев зимой", "Круг любви"… По одним названиям чувствуется амплуа Мацкевича – лидер, вождь, настоящий мужчина. "Мог срубить на ходу – был иногда прямолинейный, – вспоминает Александр Леонидович. – Но камня за пазухой не носил".

Свою гримерку заслуженный артист Иван Мацкевич делил с молодыми актерами театра. Умел наставить их без менторства. Говорил: "Хорошие пацаны – это всегда хорошие артисты". Молодежь считала его своим другом.

Прощание с заслуженным артистом Республики Беларусь Иваном Ивановичем Мацкевичем пройдет сегодня, 12 декабря, в полдень в Русском театре имени М.Горького. Его похоронят на Восточном (Московском) кладбище Минска.

**Елена МОЛОЧКО.**

100 ГОД ТАМУ...

## Першы Усебеларускі з'езд. Працяг

Пасля пасяджэння 7–8 снежня 1917 г., на якім адбылося першае ўрачыстае адкрыццё Усебеларускага з'езда (пра гэта чытайце ў "Народнай Волі" за 5 снежня), праблема канчатковага яго складу і паўнамоцтваў дэлегаваных на яго асоб, аднак, канчаткова вырашана не была. Беларускі абласны камітэт па-ранейшаму збіраўся склікаць свой з'езд у Рагачове, у сувязі з чым Вялікая Беларуская Рада вяла з ім няпростыя перамовы. 8 снежня Рада Усебеларускага з'езда накіравала ў БАК тэлеграму наступнага зместу: "*Усебеларускі З'езд у складзе 500 правамоцных дэлегатаў адкрыты. Дэлегаты працягваюць прыбываць*".

Даведаўшыся, што ВБР усё-такі здолела адкрыць з'езд, прадстаўнікі БАК урэшце былі змушаны пагадзіцца далучыцца да яго. Прычыны гэтага кроку прабальшавіцкага органа тлумачыць гісторык Дарота Міхалюк: па-першае, ігнараваць уражвальную і прадстаўнічую цырымонію вечара і ночы з 7 на 8 снежня ўжо ніяк не выпадала, а па-другое, "лідары БАК разлічвалі таксама захапіць кіраўніцтва і паўплываць на рэзалюцыі Усебеларускага з'езда". У сваю чаргу ВБР разлічвала, што з далучэннем БАК да правядзення з'езда ўдасца пазбегнуць канфлікту з бальшавікамі; немалаважным чыннікам было і тое, што БАК атрымаў з Петраграда салідную як на той час грашовую падтрымку на арганізацыю з'езда. Пэўную ролю ў прыняцці кансалідаванага рашэння пра далейшы ход з'езда адыграў і той факт, што 9 снежня ў Брэсце пачаліся перамовы Савецкай Расіі з дзяржавамі германскага блоку, і пытанне пра лёс Беларусі і цэласнасці яе тэрыторыі ў будучыні не на жарт устрывожыла прадстаўнікоў самых розных беларускіх палітычных плыняў.

У выніку першы склад Рады Усебеларускага з'езда прыняў супольнае з БАК рашэнне пра тое, каб правесці паўторнае ўрачыстае адкрыццё з'езда праз некалькі дзён пасля прыбыцця на яго прадстаўнікоў БАК і яшчэ большай колькасці дэлегатаў.

Як напісаў у сваёй вядомай кнізе "Белорусское движение" (Масква, 1921) гісторык і грамадскі дзеяч Фёдар Турук, грунтуючыся на дакументах, што ён тады меў у сваім распараджэнні, "на 1-м Всебелорусском съезде, официально открытом в Минске 14 декабря, присутствовало 1872 делегата, из которых 1167 с правом решающего голоса". Сярод іх пераважалі прадстаўнікі дэмакратычных дзелавых і дзяржаўных устаноў. Найпаўней былі прадстаўлены вайсковыя арганізацыі беларусаў і валасныя земствы. У палітычных адносінах на з'ездзе выявілі сябе такія групоўкі, як беспартыйныя зямляцтвы, сацыялісты ад усіх беларускіх губерняў, правыя і левыя сацыял-рэвалюцыянеры, меншавікі і меншавікі-інтэрнацыяналісты, бальшавікі, Беларуская Сацыялістычная Грамада, Беларуская партыя народных сацыялістаў, Беларуская партыя хрысціянскіх дэмакратаў і досыць вялікая колькасць дробных груп. Дэлегаты прыехалі ў Менск з усіх частак Беларусі, ад кожнай губерні. Не маглі прыбыць некаторыя беларусы з акупаванай кайзераўскімі войскамі "акругі Обер-Ост", але заходнія губерні былі прадстаўлены дэлегатамі ад арганізацый бежанцаў, што паходзілі з гэтых тэрыторый.

Далучэнне да з'езда новых дэлегатаў выклікала неабходнасць перафарміравання выбранага 7 снежня прэзідыума Рады з'езда. 14 снежня быў зацверджаны яго новы склад. Старшынёй прэзідыума стаў ураджэнец Навагрудчыны і выпускнік Варшаўскага ветэрынарнага інстытута Янка Серада. Даўні дзеяч беларускага нацыянальнага руху, Серада ў 1917 г. далучыўся да адроджанай БСГ. Пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ён стаў спачатку народным сакратаром сельскай гаспадаркі, а пасля і старшынёй Рады БНР; увайшоў у склад ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў. У падсавецкай Беларусі Серада вярнуўся да выкладчыцкай і навуковай працы, стаў дацэнтам Горацкай сельгасакадэміі, сярод іншага аўтарам грунтоўнага падручніка "Ветэрынарыя і заагігіена" (Мінск, 1927–1928). У 1930 г. быў арыштаваны па сфабрыкаванай ГПУ справе "Саюза вызвалення Беларусі", высланы на 5 гадоў у Расію. У 1941 г. Сераду арыштавалі паўторна і асудзілі на 10 гадоў пазбаўлення волі; ва ўзросце 64 гадоў ён знік без вестак у Краснаярскім краі пасля датэрміновага вызвалення ў лістападзе 1943 года.

На Першым Усебеларускім з'ездзе намеснікамі Янкі Серады былі выбраны паэт і нядаўні шматгадовы палітвязень Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун) і прадстаўнік БАК студэнт А.Вазіла. Ганаровымі старшынямі з'езда абралі ветэрана антыцарскага змагання, памешчыка і былога народніка Анатоля Бонч-Асмалоўскага, а таксама акадэміка Петраградскай Акадэміі навук, прафесара, аўтара капітальнай працы "Беларусы" Яўхіма Карскага. У новы склад Рады Усебеларускага з'езда ўвайшлі каля 60 чалавек, у тым ліку 12 сялян (па два ад кожнай губерні), тры прадстаўнікі чыгуначнікаў, па два прадстаўнікі ад кожнага фронту і ад Балтыйскага флоту, па адным прадстаўніку ад ВБР, Беларускай Цэнтральнай Вайсковай рады, БАК, Выканаўчай камісіі Другога беларускага з'езда ў Маскве, Краёвага бюро, фракцый палітычных партый (як беларускіх, так і агульнарасійскіх), земскагарадской групы, кааператыўнай групы, паштова-тэлеграфных службоўцаў, настаўнікаў, бежанскіх арганізацый. Гэта ўсё не былі ананімныя асобы: у складзе Рады з'езда актыўна працавалі банкаўскія службоўцы Алесь Бурбіс і Язэп Дыла; вышэйзгаданыя акадэмік моваведства Яўхім Карскі і паэт Алесь Гарун; аграном, дэпутат Менскай гарадской думы Аркадзь Смоліч; адвакат Аляксандр Цвікевіч, народныя настаўнікі Макар Касцевіч (Краўцоў), Палута Бадунова, Г.Астроўскі, Д.Ганчарэнка; журналіст Язэп Варонка; генерал артылерыі Канстанцін Аляксееўскі, капітан Яўген Ладноў, артылерыйскі афіцэр Васіль Захарка; юрыст А.Кусэ-Цюз, тэхнік-электрык Язэп Мамонька, інспектар кааперацыі Пётра Крачэўскі, міравы суддзя Язэп Сушынскі, паштовы чыноўнік Б.Шымко і іншыя. Не хачу стамляць чытачоў доўгім пералікам прозвішчаў, але нашы сучаснікі павінны ведаць, што падмурак беларускай незалежнасці сто гадоў таму закладалі не абстрактныя "безыменныя сілы", варожыя некаму і нечаму, а рэальныя людзі, якія мелі розныя, часам супрацьлеглыя, палітычныя погляды, аднак адчувалі сваю персанальную адказнасць за лёс роднай для іх Беларусі.

Пасяджэнні органаў з'езда адбываліся не толькі ў будынку Менскага гарадского тэатра (ён не мог змясціць усіх), але і ў так званым Дваранскім доме, сустрэчы секцый і камісій праходзілі таксама і ў іншых месцах. Як падкрэслівае тая ж Дарота Міхалюк, "сацыяльнае становішча ўдзельнікаў з'езда было збольшага аднастайным: у ім удзельнічалі ў асноўным прадстаўнікі ніжэйшых і сярэдніх слаёў грамадства (амаль на 90%)". Пры такім раскладзе левае крыло беларускага нацыянальнага руху мела на Усебеларускім з'ездзе дамінантныя пазіцыі, і бальшавіцкія ўлады Петраграда адчувалі сябе адносна спакойна ў чаканні рашэнняў гэтага з'езда. Яны былі ўпэўнены, што з'езд адназначна падтрымае Савецкую ўладу і створыць у Беларусі чыста дэкаратыўнае нацыянальнае прадстаўніцтва, цалкам залежнае ад бальшавікоў…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, кандыдат філалагічных навук.**

СІТУАЦЫЯ

## Ці атрымае Станіслаў Шушкевіч 396 рублёў прыбаўкі да пенсіі?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Я доўгі час змагаўся за свае правы. Для мяне была ганьба атрымліваць пенсію па ўзросце, калі я меў права на больш прыстойную пенсію. Я звяртаўся ў суд, да тагачасных прэм'ер-міністра, старшынь Савета Рэспублікі і Палаты прадстаўнікоў, кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Тагачаснаму старшыні Вышэйшага Гаспадарчага суда Беларусі **Віктару Камянкову** я пісаў у лісце, што *мая пенсія ганьбіць не толькі таго, хто яе прызначыў сваім дэкрэтам, але і ўсе дзяржаўныя інстытуты, якія маюць дачыненне да сацыяльнага забеспячэння. Дарэчы, Арбітражны суд мяне падтрымаў, але пенсію кіраўніка дзяржавы ўсё роўна не далі.*

**– Станіслаў Станіслававіч, а ў Акадэмію зараз па сваёй ініцыятыве звярнуліся ці, можа, ізноў жонка?**

*– З нашай Акадэміяй я падтрымліваю стасункі, удзельнічаю ў яе працы. На апошні Агульны сход хадзіў, калі выбіралі новых акадэмікаў і членкараў, быў на выніковым сходзе, прысутнічаю на пасяджэннях у сваім аддзяленні. Лісты з Акадэміі розныя атрымліваю. Даведаўся, што існуе парадак, паводле якога можна атрымаць надбаўку за званне члена-карэспандэнта, і падаў заяву. І мяркую, што ў наступным годзе членкараўскія атрымаю. Няма сёння акадэмікаў і членкараў, якія жылі б у Беларусі і ім гэтыя грошы не выплачвалі. Я адзін такі застаўся…*

КАЛЬКУЛЯТАР

## Колькі «каштуе» званне акадэміка і члена-карэспандэнта

*Рашэнне Акадэміі навук адносна членкараўскай надбаўкі Станіслава Шушкевіча стане вядома не пазней за 15 студеня 2018 года. У адпаведнасці з указам прэзідэнта выплаты за званні і ступені* прызначаюцца вучоным штогод, і менавіта да 15 студзеня Прэзідыум НАН сваім рашэннем вызначае спіс атрымальнікаў.

Памер даплаты складае суму, роўную 12 тарыфным стаўкам першага разраду, для членаў-карэспандэнтаў і 14 – для акадэмікаў. З 1 верасня тарыфная стаўка першага разраду павышана да 33 рублёў, таму сёння членкары і акадэмікі маюць штомесяц дадатковы даход 396 рублёў і 462 рублі адпаведна. Прычым атрымліваць гэтыя даплаты могуць акадэмікі і членкары, якія выйшлі на пенсію. А для вучоных-пенсіянераў, якія маюць званні дацэнта і прафесара, такія надбаўкі не прадугледжаны. У свой час гэтае пытанне ўзнімалася, гучала прапанова ўнесці ў Закон "Аб пенсіённым забеспячэнні" норму, якая прадугледжвала б захаванне на пенсіі даплат за вучоную ступень доктара навук і вучонае званне прафесара. Але нічога з гэтай ініцыятывы не атрымалася.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

БЕЛАРУСЬ–ЕС

## Алег КРАЎЧАНКА, намеснік міністра замежных спраў: Беларусь не плануе станавіцца членам ЕС, але зацікаўлена ва «Усходнім партнёрстве»

Такую заяву зрабіў учора Алег Краўчанка на форуме “Еўрапейскі Саюз і «Усходняе партнёрства»: падыходы да рэгіянальнага супрацоўніцтва”, які гэтымі днямі праходзіць у Мінску.

*“Паколькі мы з’яўляемся гандлёвымі партнёрамі, у нас вельмі шмат турыстычных, адукацыйных, персанальных сувязяў з Еўрасаюзам, мы наўпрост зацікаўлены ва “Усходнім партнёрстве”*, – сказаў ён. – *Гэты фармат дае дадатковыя магчымасці для ўзаемадзеяння ў інтарэсах нашых краін і народаў”.*

Кажучы пра перспектывы пачатку перамоў паміж Беларуссю і ЕС па базавым пагадненні аб партнёрстве і супрацоўніцтве, Краўчанка адзначыў, што краіна не плануе заключаць дагавор аб асацыяцыі. “*У нас павінен быць такі дакумент, як паміж Еўрасаюзам і Расіяй. Нам трэба яго заключыць і падпісаць як мага хутчэй*”, – сказаў ён.

СУД

## Зміцер Крамянецкі судзіцца з КДБ

*Ён хоча спагнаць з сілавікоў 10 тысяч рублёў.*



Сёння, 13 снежня, суд Маскоўскага раёна працягне разглядаць іск былога фігуранта “справы патрыётаў” да Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

Маладзёжны актывіст намагаецца спагнаць з КДБ маральную кампенсацыю за свой арышт і знаходжанне ў следчым ізалятары. У межах крымінальнай справы па падазрэнні ў арганізацыі масавых беспарадкаў Зміцер Крамянецкі ўтрымліваўся пад вартай у СІЗА 10 сутак.

*“Пасяджэнне па справе павінна было прайсці 6 снежня, аднак у суд не з’явіліся адказчыкі – прадстаўнікі КДБ*, – распавёў Зміцер “Народнай Волі”. – *У іскавой заяве прашу спагнаць з сілавікоў 10 тысяч рублёў. Праўда, калі прызнаюць маё права на кампенсацыю, то звычайна яе памер вызначае суд”.*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ДЫЯЛОГІ

# Міхась СКОБЛА – Аляксей МАРАЧКІН

# «Час д’ябла можа вярнуцца»





*У сталічным Палацы мастацтва 7 снежня адкрылася выстава Аляксея Марачкіна пад назвай “Збор-2”. На ёй можна пабачыць не толькі карціны мастака апошніх гадоў, але і ўнікальныя творы мастацтва з ягонай прыватнай калекцыі. Адшуканыя па гарышчах і хатах вяскоўцаў, яны адчувальна ахінулі выставу духам беларускай старасвеччыны. Сёння знакаміты творца – госць “Народнай Волі”.*

### «Моладзь нічога не чула пра Курапаты, затое ведае пра «Лінію Сталіна»

**– Спадар Аляксей, ваша выстава праходзіць у фае Палаца мастацтва. Варта толькі пераступіць парог – і апынаешся сярод вашых карцін. Чаму вы, прызнаны майстра, для сустрэчы са сваімі прыхільнікамі выбралі такое непрэстыжнае месца?**

– Чаму непрэстыжнае? Як па мне – дык вельмі прэстыжнае. Гэта такая выспа свабоды ў нашым палацы, тут людзі ходзяць, не купляючы квіткоў. На гэтай пляцоўцы апошнім часам праходзіла выстава, прысвечаная ахвярам сталінскіх рэпрэсій. Да таго ж у канцы кастрычніка мы адзначалі 80-я ўгодкі піку сталінскага тэрору. Усё гэта мяне хвалюе, я адчуваў, што мушу нешта зрабіць. І я напісаў карціну “Час д’ябла” – на выставе яна займае цэнтральнае месца. А ўвогуле тут я паказваю каля сотні сваіх прац. Плюс чужых – каля сямідзесяці. На першы погляд, здаецца, пляцоўка малая, але насамрэч месца хапае, творы шчыльна вісяць, як гронкі ў вінаградніку. Прадстаўлены і працы апошніх гадоў (скажам, “Глорыя Алена”), і ранейшыя – вялікі партрэт Алега Бембеля, які сёння вядомы як паэт Зніч і манах Жыровіцкага манастыра. Мяне калісьці вельмі моцна ўразілі яго радкі: “Раскрыжаванне кат завершыў, / Аблашчыў кужаль кроў жыцця. / Так, плашчаніца – гэта першы / Мой бел-чырвона-белы сьцяг!”.

**– Наведнікі выставы надоўга прыпыняюцца каля згаданага “Часу д’ябла”. Мяне ўразіла, што многія з іх (асабліва малодшыя) нічога не ведаюць пра Курапаты, і вы былі вымушаны тлумачыць…**

– Ведаеш, мяне гэта ўжо не ўражвае, гэта вынік шматгадовай дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі. Мне тут дапамагала карціны надпісваць адна дзяўчына, навучэнка педагагічнага каледжа, дык яна таксама нічога не ведала пра Курапаты. Гэта пра што гаворыць? Што маладое пакаленне, якому трохі больш за 20 гадоў, пра рэпрэсіі 1930-х гадоў мае хіба прыблізнае ўяўленне. У школе і ВНУ – гэта закрытая тэма. Цікава, што калі я запытаўся ў моладзі пра “Лінію Сталіна”, то пачуў у адказ: а як жа, чулі, ведаем. Усё гэта вельмі сумна. Сумна і тое, што сённяшняя ўлада падзяляе грамадства на сваіх і чужых: мы (улада) і яны (апазіцыя). А так быць не павінна. Мне хочацца дажыць да таго часу, калі слова “мы” будзе азначаць нас усіх, разам з уладай. Сёння ў нас, на жаль, не нацыятворчая ўлада. Цяперашнім чыноўнікам няма даверу, бо яны думаюць у першую чаргу не пра Беларусь, а пра свой камфорт. Вяртаючыся да тэмы Курапатаў, згадайма: і Лех Валенса там пабыў, і прэзідэнт ЗША Біл Клінтан. А кіраўнік Беларусі – ні разу. За 23 гады.

### «Крывавае кола ГПУ–НКВД–МГБ–КГБ пракацілася па мільёнах жыццяў»

**– Здаецца, у апавяданні Борхеса Бог спыняе кулю, якая ляціць у сэрца мастака. Каб ён паспеў дапісаць сваю карціну. І на вашай карціне “Час д’ябла” – спыненыя кулі. Каб паэты паспелі дапісаць свае вершы?**

– Гэта такі кінематаграфічны прыём – куля бярэцца буйным планам і раптам застывае. І ў мяне яны застылі. На палатне цяжка паказаць палёт кулі. І ты правільна заўважыў: расстраляны ў Курапатах паэт Алесь Дудар свой верш дапісаў, ён заканчваецца упісаным у карціну радком: “Сіл такіх няма, каб нас перадушыць!”. А калі карціна была ўжо фактычна завершана, мне адзін знаёмец прачытаў верш расійскага паэта Барыса Карнілава (ён, дарэчы, быў жанаты на беларусцы): “Ох, как веет душком нечистым / От тебя, гражданин чекист! / Я плюю на твои наветы, / На помойную яму лжи, / Есть поэты, будут поэты, / Ты ж, паскуда, живи и дрожи!”. І я таксама ўвёў гэтыя радкі ў карціну. Нешта запісваць на палотнах мяне натхніў Язэп Драздовіч. Я доўгія гады збіраў яго спадчыну, і калі знаходзіў новы твор, то глядзеў на другі бок палатна – што там напісана? А ён даваў там безліч усякай інфармацыі: чый партрэт, пры якіх абставінах намаляваны і г.д. І вось я таксама пачаў на некаторых творах запісы рабіць. Аднойчы калега Мікола Ісаёнак папракнуў мяне: “Ты малюеш нонканфармісцскія творы, а ўлада ж гэтага не любіць. А я вось пішу краявіды, балотцы, бярозкі”. Дык я намаляваў шарж і надпісаў: “Штодня малюю хмызнякі / і застаюся на вякі”. А калі я неяк сядзеў на Акрэсціна, то хадзіў туды-сюды па камеры і раптам бачу – дзверы як твор мастацтва! На іх былі выдрапаны імёны, нейкія словы. Дзверы тыя, вядома, шматкроць фарбаваліся, але рэльефы засталіся, і мне было цікава іх расшыфраваць. Але спачатку я ішоў не ад слова, а ад вобраза, ад уласных перажыванняў, свайго разумення Курапацкай трагедыі. Той жа “Час д’ябла” – твор не дакументальны, там няма ні катаў, ні ахвяр. Толькі крывавае кола сталіншчыны, на якім напісана: “ГПУ–НКВД–МГБ–КГБ–ФСБ”, якое праехалася па мільёнах людскіх жыццяў… Любой уладзе не патрэбны вальнадумцы (а талент – заўсёды вальнадумны), ёй патрэбны паслухмяныя людзі-вінцікі, якія і данос на суседа напішуць, і выбары дапамогуць сфальсіфікаваць. Нездарма поруч з “Часам д’ябла” вісіць карціна, на якой пазнаецца адна вядомая асоба. Я назваў твор “Калядоўшчыца” (другая назва – “КаЛІДАванне”), бачыце, там і чарпак, і каструля з баршчом...

**– Дык гэта партрэт Лідзіі Ярмошынай?**

– Можна і так лічыць.

**– Я гляджу на карціну “Час д’ябла”, і мне прыгадваецца радок Сяргея Грахоўскага (двойчы вязня ГУЛАГа): “Пракацілася эпохі кола па хрыбетніку маім”. А ці можа тое жудаснае кола вярнуцца і яшчэ раз пракаціцца па беларускай зямлі?**

– Такая небяспека ёсць, час д’ябла можа вярнуцца. Паколькі мы звязаны саюзам з Расіяй, і нашы начальнікі проста спісваюць з Крамля тое, што там робіцца. Мне нехта казаў, што нават школьныя падручнікі ў нас пішуць з аглядкай на Расію. А там сёння ўздымаюць на катурны бацюшку-цара, там ставяць помнікі Сталіну (нядаўна і ў Маскве паставілі). “Русский мир” за апошнія два дзесяцігоддзі моцна ўкараніўся ў Беларусі. А зірніце, як асвятляецца ў расійскіх СМІ кастрычніцкі пераварот! Крэмль, як выглядае, да яго крытычна ставіцца толькі таму, што пасля перавароту была знішчана Расійская імперыя. Пуціну гэта не даспадобы, таму і не адзначаліся на дзяржаўным узроўні нядаўнія 100-я ўгодкі колішняй “вялікай рэвалюцыі”. Героем для Крамля цяпер – святы Уладзімір, “збіральнік рускіх земляў”. Трэба “отторженное возвратить”. Адсюль вайна ва Украіне, адсюль небяспека і нам, беларусам.

### «Прасніцы – матэрыял з незвычайнай беларускай энергетыкай!»

**– Вы малюеце не толькі на палатне, але і на прасніцах, якія сёння ўжо рэчы музейныя. Дзе вы іх знаходзіце?**

– Прасніцы – матэрыял з незвычайнай беларускай энергетыкай! Некаторым з іх больш за сто гадоў. Я даўно займаюся прасніцамі, шмат іх у свой час назбіраў, яны заўсёды ёсць у мяне ў майстэрні. Самае цікавае, кожная з іх – непаўторная. Вось як збанкі ў ганчара – здаецца, яны ўсе аднолькавыя. А прыгледзішся – на кожным рукі майстра пакінулі свой адметны след. Так і прасніцы па форме ніколі не паўтараюцца. На іх я пішу і арнаментыку, і Еўфрасінню Полацкую (узор – выява ў полацкай царкве). Тая выява нагадвае мне маю святой памяці жонку Ірыну. Прасніцы да ўсяго прыдатныя: і пад біблейскія сюжэты, і нават пад палітычную сатыру, дзе пазнаецца сённяшні начальнік краіны. У гэтым жанры ў мяне ўжо ёсць паслядоўнікі – Янка Рамановіч і Міхась Ляўковіч з Віцебска. І попытам такія распісаныя прасніцы карыстаюцца – скажам, іх ахвотна набываюць кавярні для аздобы сцен.

**– Марачкін-мастак прызнаны і шанаваны ўсімі. Марачкін-паэт – таксама, вы адносна нядаўна сталі сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў. Але на гэтай выставе вы выступаеце яшчэ ў іпастасі збіральніка. Чым можа пахваліцца Марачкін-калекцыянер?**

– Я не з тых ганарлівых мастакоў, якія толькі сябе лічаць вартымі ўвагі. Ужо многа гадоў я збіраю творы блізкіх мне па духу творцаў. У свой час я прайшоў дарогамі Язэпа Драздовіча, яны завялі мяне ў Вільню, дзе я пазнаёміўся з Пётрам Сергіевічам, які пазнаёміў мяне з Міхасём Сеўруком, вучнем Фердынанда Рушчыца... Мне ў жыцці была неабходная такая повязь пакаленняў, гэтыя знаёмствы былі мне наканаваны лёсам. Вось тут на выставе можна пабачыць невядомы твор Юдаля Пэна (настаўніка Марка Шагала), я даваў яго на экспертызу ў Нацыянальны музей. Мне сказалі: так, па почырку Пэн, хоць нідзе не падпісана. Як гэты твор да мяне трапіў? Яго падараваў мне на дзень народзінаў мой калега Валерый Кісялёў, з якім мы разам вучыліся ў Віцебску. Дарэчы, яго маці паходзіла з роду кампазітара Туранкова, іх сям’я жыла на Нямізе. А калі Нямігу руйнавалі, карціна трапіла да Кісялёва. Здаралася, скарбы самі плылі мне ў рукі рознымі шляхамі, за гады сабралася даволі шмат. Студэнты часта дарылі мне свае працы. А аднойчы мяне намаляваў Уладзімір Тоўсцік – я там музыку слухаю. Здаралася рознае. Скажам, падчас турыстычнай паездкі на пачатку 1980-х гадоў застаўся ў Францыі беларускі мастак Мікола Паўлоўскі. У Парыжы яму дапамог уладкавацца Барыс Заборaў. Пра намеры Паўлоўскага застацца на Захадзе ў Мінску ведалі ўсяго два чалавекі – мастак Тодар Копша і я. Перад ад’ездам Мікола завёў мяне ў сваю майстэрню і паказаў зашытую дошкамі сцяну, дзе былі схаваны яго карціны. І папрасіў забраць іх, калі ён не вернецца. Мы з Копшам захавалі таямніцу, нікому не сказалі. А на той час гэта быў нечуваны скандал! Саюз мастакоў тады ўзначальваў Віктар Грамыка. Пікантнасці сітуацыі надаваў той факт, што Паўлоўскі ўваходзіў у КПСС. Для фунцыянераў гэта было ўдарам – як гэта камуніст застаўся ў краіне “загніваючага капіталізму”?! Паўлоўскі, дарэчы, да гэтага часу жыве і наказаў мне распарадзіцца яго творамі, як палічу патрэбным. Яны і на выставе прадстаўлены.

### «Знойдзены на Віцебшчыне Статут ВКЛ я перадаў у Полацкі музей кнігадруку»

**– Калі вы збіралі спадчыну Драздовіча па вёсках, пра мастака тады мала хто ведаў. Сёння помнікі яму стаяць у Мінску і Глыбокім, у сталіцы ёсць вуліца Драздовіча, выйшаў у свет яго шыкоўны альбом. Вам прыемна ўсведамляць, што ў гэтым ёсць і ваша заслуга?**

– Пра Язэпа Драздовіча я ўпершыню пачуў ад Арсеня Ліса, Зянона Пазьняка і Яўгена Куліка. Мяне адразу ўзрушыла, што мясціны Драздовіча – гэта і родныя мясціны маёй жонкі Ірыны. Я адразу ж паехаў на ровары па тых вёсках, дзе мастак перажыў фашысцкую акупацыю, выкладаў у школе астраномію і маляванне. Помню, прыязджаю ў вёску Верацеі, і адна жанчына здымае з гарышча і паказвае мне ўнікальную карціну Драздовіча “Мужык з панам цягаюцца”. Я быў проста ашаломлены. Пазней я перадаў гэты твор у Мастацкі фонд, адкуль ён трапіў у сталую экспазіцыю Полацкай галерэі. Ён і цяпер там, на самым пачэсным месцы. Пазней я прачытаў дзённікі Драздовіча, і – пайшлопанеслася. Дзякуючы запісам мастака, я знайшоў Статут ВКЛ, які потым перадаў у Полацкі музей кнігадруку. Сабраў шмат маляваных дываноў, нямала перадаў у Заслаўскі музей, а частка засталася ў мяне. Аднойчы (ужо на матацыкле) еду па вёсцы і бачу, як бабулька нясе бацвінне ў… дыванку Драздовіча! Я кінуў матацыкл пры плоце і прапанаваў дапамогу. Прынёс тое бацвінне, вытрас у загарадку, дзе свінні парохквалі, разгарнуў дыванок і бачу – не памыліўся. Прашу бабульку прадаць, а яна – нізашто. Кажа: а ў чым я бацвінне буду насіць? Я пабег у краму і купіў ёй харошую посцілку. А бабуля: ой, у такой шкада бацвінне насіць, але дыванок забірай... Драздовіч раздаваў свае творы за ежу, за начлег, многае, вядома ж, загінула, але нямала і захавалася, людзі зберагліі. Так адна жанчына перадала мне малюнак “Самагоншчыкі ў Галубіцкай пушчы”.

**– Каля гэтага твора пасля адкрыцця выставы цэлая дыскусія адбылася. Дасведчаныя знаўцы гаварылі, што самагонка ў Драздовіча струмком льецца, а трэба, каб капала, тады будзе моцны пяршак.**

– Тут, прызнаюся, мне бракуе досведу… Калі думаю пра Драздовіча, мне ўспамінаецца драматург і першы народны артыст Беларусі Уладзіслаў Галубок. Ён вельмі абярэжліва ставіўся да сваіх рукапісаў і вазіў іх з сабою ў адмысловым куфры. А НКВД яго арыштавала, і дзе той куфар падзеўся? З сарака п’ес Галубка да нас дайшоў добра калі дзясятак. А вось Драздовіч, наадварот, нічога не зберагаў, усё раздаваў людзям. І спадчына яго ў большасці выпадкаў зберaглася.

**– На выставе я нечакана ўбачыў графіку Уладзіміра Пузыні, нашага знакамітага сурмача. Я і не ведаў, што ён быў яшчэ і таленавітым мастаком.**

– Дык і я не ведаў. Я ўдзячны лёсу, што быў з Пузынем знаёмы. Гэта быў такі шчыры беларус, выдатны майстра, які мог зрабіць і дуду, і сурму, і жалейку. Неяк мне патэлефанавала яго жонка Валянціна: што рабіць з альбомам Валодзевых малюнкаў? Я паглядзеў – каля дваццаці выдатных графічных прац. Навагрудскі замак, партрэт Генадзя Цітовіча, зробленыя з натуры. Дальбог, не горш, чым у Драздовіча.

### «Калі ў нас мастак мысліць крыху інача, то адразу трапляе пад прыцэл»

**– Пагаварыўшы пра Марачкіна-мастака і Марачкіна-калекцыянера, не магу не прыгадаць радкі Марачкіна-паэта: “Такое нам не навіна, / Я ў эпіцэнтры калатнечы. / Ідзе сапраўдная вайна, / Не адсядзішся, дзед, на печы”. Вайна з акопамі – што стаіць у вас за гэтым вобразам?**

– Акоп для мяне – гэта мая майстэрня. У мяне сапраўды такое адчуванне, быццам я трапіў на вайну. У нас калі чалавек хоць крышачку мысліць інача, чым яму дыктуюць зверху, то ён трапляе пад прыцэл. Каб я не быў пад прыцэлам, то мае творы можна было б пабачыць у сталай экспазіцыі ў Нацыянальным музеі. Мая карціна “Вераніка і Максім” там экспанавалася, але, калі музей наведваў начальнік краіны, яе знялі і назад не вярнулі. Калі сёння “выходзіш з акопа”, то трэба не раздражняць уладу, быць свабодным, наколькі дазволена. Але калі душа прагне сказаць нешта крытычнае, я залажу ў свой акоп. Сяджу там і нікому не паказваю, што раблю. Акоп дапамагае мне засяродзіцца, рабіць тое, што мне хочацца. Хто ведае, можа, я часам і памыляюся ў сваёй ацэнцы людзей. Скажам, у паказе той жа “Калядоўшчыцы”. Але так ужо атрымалася.

**– Вы доўгі час узначальвалі мастацкую суполку “Пагоня”, у маніфесце якой запісана: “Наша зброя – любоў да Бацькаўшчыны”. Але хіба любоў можа быць зброяй?**

– Можа. Любоў да роднай мовы, да ўсяго беларускага – сёння гэта наша зброя. Калі мы ўсе загаворым па-расійску, калі знікне беларуская мова, нас Расія забярэ голымі рукамі – “вы же наши”. Таму і мова – наша зброя. Згадайма, як Хрыстос у храме разганяў гандляроў. Ён жа не хадзіў паміж сталоў і не ўпрошваў, а браў кій і гнаў прэч. Мой кій, мая рашучая зброя – гэта мая любоў да беларушчыны, мой пэндзаль і маё пяро.

**– Ад нядаўняга часу “Пагоню” ўзначаліў ваш сын Ігар. Калі вы кіравалі суполкай, то і пад дубінкі траплялі, і ў пастарунак. Якіх якасцяў вы пажадаеце Марачкіну-малодшаму і яго калегам-“пагонічам”?**

– Я вельмі ўсцешаны, што сын працягвае маю лінію. Магчыма, ён гэта робіць больш асцярожна, паколькі з’яўляецца выкладчыкам Мастацкага каледжа імя Ахрэмчыка. Сын свае веды, сваё беларускае слова перадае дзецям. Дастаткова сказаць, што адна яго выпускніца нядаўна прысвяціла свой дыплом Кастусю Каліноўскаму, і гэта была выдатная праца, якая паказвалася на прафесійных выставах. Беларускі характар у сына ў наяўнасці, нездарма спадчыну Драздовіча мы збіралі разам. Хоць усё роўна паміж бацькам і сынам не заўсёды ўсё бывае гладка, але гэта нармальна. Галоўнае маё пажаданне – працягваць традыцыі “Пагоні”, быць на вастрыі падзей. Наперадзе ў нас 100-годдзе Беларускай Народнай Рэспублікі, і Саюз мастакоў запланаваў выставу, прысвечаную гэтаму юбілею. І кіраўніцтва суполкі, і ўсе “пагонічы” павінны прапагандаваць ідэі БНР і падштурхоўваць мастакоў, каб яны на тую выставу прапанавалі адпаведныя творы. Мы ад сваёй гісторыі нікуды не дзенемся. Мы маем смеласць памятаць, мы маем смеласць гаварыць, і мы маем смеласць дзейнічаць.

ПРАБЛЕМА

## Амаль палова аўтамабіляў ездзіць без тэхагляду

1,2 мільёна аўтамабіляў, а гэта амаль палова ад агульнай колькасці зарэгістраваных у Беларусі, своечасова не прайшлі тэхагляд. Такія звесткі прывёў у эфіры праграмы «Галоўны эфір» на БТ намеснік начальніка УП «Белтэхагляд» **Уладзімір Півульскі**.

## Аплачваць «дарожны падатак» на месяц ці больш

***З такой ініцыятывай выступаюць дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.***

І парламентарыі, і транспартнікі адзначаюць, што ігнараванне тэхагляду напрамую звязана з транспартным падаткам, які абавязаны плаціць ўсе ўладальнікі аўто. Паколькі гэтыя сумы дастаткова высокія, некаторыя кіроўцы лічаць за лепшае ездзіць без тэхагляду і плаціць штраф, калі часам трапяцца інспектару ДАІ.

Трэба адзначыць, што ў гэтым годзе дэпутаты сумесна з прадстаўнікамі зацікаўленых дзяржаўных органаў актыўна працавалі над зменамі ў сістэме выплаты дзяржпошліны за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху. Канчатковае рашэнне пакуль не прынята, але, як паведаміў нядаўна старшыня Пастаяннай камісіі па прамысловасці, паліўна-энергетычным комплексе, транспарце і сувязі Палаты прадстаўнікоў **Андрэй Рыбак**, адну з версій падтрымала большасць удзельнікаў абмеркаванняў. Сутнасць яе ў тым, каб адвязаць выплату падатку ад тэхагляду і ўносіць яго асобным плацяжом, без прывязкі да чаго-небудзь.

– *Грамадзянін, які вырашыў, што будзе карыстацца машынай нейкі перыяд, напрыклад, летам, аплачвае дарожны падатак на месяц ці больш праз АРІП, банк або пошту,* – патлумачыў Андрэй Рыбак. – *Памесячна аплата дарожнага падатку закрывае праблему, калі аўтамабіліст збіраецца прадаваць машыну. Галоўнае пытанне – як гэта можна пракантраляваць? Мы прыйшлі да такога варыянта, як фотафіксацыя, якую ў Беларусі трэба развіваць больш актыўна.*

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА!

# Што іх гоніць з дому?

Нядаўна давялося аўтобусам дабірацца да Варшавы. У салоне, я палічыў, больш за сорак пасажыраў. І што кінулася ў вочы – было ўсяго сем-восем жанчын. Мужчыны пры гэтым не хлопцы-студэнты – узрост іх недзе ад трыццаці да сарака пяці гадоў.

Падчас мытнага дагляду звярнуў увагу на тое, што амаль усе мужчыны на пытанне "Чаго едзеце за мяжу?" адказвалі прыкладна аднолькава: "На работу". І паказвалі адпаведныя дакументы.

Мне здалося, што большасць маіх спадарожнікаў працуюць у Польшчы, Чэхіі, Германіі дальнабойшчыкамі альбо на будаўнічых аб'ектах. Іх вахты доўжацца два-тры месяцы, затым на тыдзень-другі яны прыязджаюць дахаты, у Беларусь, крыху адпачнуць і зноў – за мяжу.

Усім вядома прычына масавага ад'езду нашых людзей у іншыя краіны – нізкія заробкі дома, праблемы з працаўладкаваннем. З аднаго боку, кожны мае права сам вырашаць, дзе яму жыць і працаваць, а з другога – пры такім масавым ад'ездзе за мяжу людзей самага працаздольнага ўзросту марнее наша эканоміка. Беларускаму ўраду трэба стварыць такія ўмовы для сваіх людзей, каб яны мелі магчымасць працаваць, добра зарабляць дома і не імкнуцца шукаць рабочыя месцы за мяжой.

**Рыгор ЛУЗГІН.**

СТОП-КАДР



Фінал конкурсу "Студэнт года" адбыўся некалькі дзён таму ў Нацыянальнай бібліятэцы. Яго лейтматыў: "Беларусь – крыніца натхнення". Перамагла 19-гадовая студэнтка Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксандра РАДКОВІЧ (першая злева).

РУБАМ!

# За фальсіфікацыю выбараў – 10 гадоў турэмнага заключэння з канфіскацыяй маёмасці

Афіцыйная прапаганда балбоча пра кансалідацыю беларускага грамадства. Але дзе яна? Хто не ведае, як у нас праводзяцца выбары! Колькі чыноўнікаў, так званых прадстаўнікоў працоўных калектываў, удзельнічаюць у фальсіфікацыі вынікаў галасавання. Ужо толькі гэта ўносіць раскол у людскія масы.

Я лічу, што дэпутатам парламента даўно трэба было прыняць закон аб жорсткім пакаранні тых, хто займаецца фальсіфікацыяй выбараў, – 10 гадоў турэмнага заключэння з канфіскацыяй маёмасці.

**С.ДУБОВІК, жыхар г.Барысава.**

РЭЗАНАНС

# Летаргія

"Народная Воля" атрымала вершаваны водгук на артыкулы доктара гістарычных навук, прафесара Леаніда Лыча, у якіх ён крытыкуе манкурцкае стаўленне беларускай эліты да нацыянальных святынь – роднай мовы, гістарычнага бел-чырвона-белага сцяга, герба "Пагоня", адраджэння векавых традыцый самабытнай культуры народа. Да сённяшняга дня многія з тых, хто прылічвае сябе да інтэлігенцыі, знаходзяцца ў палоне савецка-бальшавіцкіх догмаў, здраджваючы інтарэсам роднай Беларусі, Бацькаўшчыне.

Аб прынцыповай пазіцыі вядомага навукоўца і грамадзянскай бестурботнасці нашай так званай эліты – паэтычныя радкі Міколы Гіля.

Леанід Міхайлавіч Лыч
Важка, як заўжды, і грунтоўна
Даў "эліце" нашай у лыч, –
Ды ён гэта ці не ўсё роўна.

Не чытае яна газет,
А тым больш – "Народную Волю":
Хіба ж рабскі менталітэт
Дазволіць такую сваволю?!

Яна любіць есці і піць,
А яшчэ – штодня весяліцца,
А нацыясвядомасць – спіць
Летаргічна: не дабудзіцца!

І ў труну ляжа спачываць,
Завяшчаючы летаргію
Дзецям: каб не маглі спазнаць
Па Бацькаўшчыне настальгію.

Божа, Божа, ўжо сотні год
Наш народ прадае эліта!
Што ж здзіўляцца, што ў нас – няўрод,
Што паўсюль наша карта біта?!

Леанід Міхайлавіч Лыч,
Тым не менш рук не апускайце
І "эліце" смаліце ў лыч, –
Браму памяці адчыняйце!

**Мікола ГІЛЬ.**

З НАГОДЫ

# Недаравальная апатыя

Зусім мала часу застаецца да выбараў у мясцовыя Саветы. Здавалася б, хадуном павінна хадзіць краіна. А тут – поўнае зацішша, як быццам палітычная кампанія нікога не хвалюе.

На мой погляд, дэмакратыя павінна браць пачатак з нізоў. Менавіта мясцовыя Саветы павінны ўкараняць у рэгіёнах самакіраванне. Але для гэтага трэба абраць дэпутатаў ліберальных па духу, здольных спрыяць станоўчым пераменам як у эканамічных сферах, так і ў іншых. І партыям, грамадскім аб'яднанням, рухам трэба актывізавацца падчас выбарчай кампаніі і ў дэпутаты мясцовых Саветаў усіх узроўняў вылучыць вартых кандыдатаў.

**Вольга КУЛАЖАНКА.**

*Гомель.*

РЕЗОНАНС

# Текла река Волма…

Меня встревожило сообщение о том, что в высоких сферах обсуждается проект восстановления на территории Беларуси магистрального водного пути от Вислы до Черного моря. И вот почему.

В двадцати километрах от Минска Могилевское шоссе пересекает небольшую речушку Волма. Из окна идущего по мосту автобуса можно увидеть полоску воды, которая в иные годы летом уменьшается почти до 2 метров в ширину и пары десятков сантиметров в глубину. И тогда идеально прозрачная вода открывает необычайно желтизны песчаное дно…

Сегодня мне уже не с кем вспоминать, что в 1950-х годах Волма в этом месте была полноводной рекой шириной до 15 и глубиной до 6–7 метров. Протекала она среди болота, к ее берегам подойти можно было не везде. Она буквально кишела рыбой. В конце 1950-х за дело взялись мелиораторы. За пару лет часть реки перед шоссе спрямили, и вскоре она здесь чудовищно обмелела, поскольку вода из подпитывавшего ее болота стекла. Осушенные сотни гектаров земли прилегающий колхоз стал засевать сахарной свеклой, но после трех-четырех урожайных лет из-под перепаханного торфа показались мощные пласты бесплодной белой глины. С тех пор на этих полях по сей день, считай, ничего не растет. Обезвоженный торф в первое же сухое лето начал гореть. Огонь потушить было невозможно, он уходил в глубинные пласты и даже без доступа воздуха не гас. В глубокие ямы от выгоревшего торфа попадали люди, животные и даже сельхозтехника. До конца 1970-х гарь от этих пожаров вместе с мельчайшими частичками золы и торфа восточными ветрами переносилась на Минск, и многие горожане от этого очень страдали. Торф погас только после того, как выше по течению реки было заполнено Петровичское водохранилище, которое, по сути, стало выполнять функции болота.

Насколько хрупкое установившееся на реках и озерах Беларуси водное равновесие, показал сухой 2015 год. В конце лета в течение месяца уровень воды в озере Дривяты был ниже обычного на треть метра. Озеро тогда потеряло 10 млн кубометров воды, или 5% своего объема. Все озера Браславщины связаны между собой, значит, «усохло» еще больше воды. А в начале сентября мокрого 2017 года уровень воды в Дривятах поднялся так, что при сильном ветре вода выплескивалась из берегов, как суп из переполненной тарелки. Мать-природа пока уберегает Беларусь от катастрофических последствий капризов погоды.

Но природа бессильна против самодурства наследников «специфилистов», которые полвека назад превращали болота в пустыни. Чтобы задуматься над тем, что они собираются «сотворить», советую этим людям посмотреть на последствия мелиоративных работ на реке Волма. Далеко ехать не придется: 20 минут на маршрутке.

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ, инженер.**

РЭХА

# Такая парламенцкая камісія павінна быць створана

Прачытаў артыкул "Некоторые готовы говорить", і ў мяне ўзнікла пытанне. Хто, скажыце, "забодал" ініцыятыву наконт стварэння парламенцкай камісіі па высвятленні ўсіх абставін, звязаных з расследаваннем крымінальных спраў аб знікненні (а дакладней – аб знішчэнні) Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага? Лічу, што такая камісія абавязкова павінна быць створана.

**У.СЦЕПАНІШЧАЎ.**

*Віцебск.*

ВІНШАВАННЕ

# З днём нараджэння, дарагі!

*Радзіму Гаўрылавічу ГАРЭЦКАМУ*

Радзім Гаўрылавіч, шаноўны,
З днём нараджэння, дарагі!
Пачуццяў лепшых кошык поўны
Ад сэрца шчырага прымі!

Дай Бог табе здароўя, моцы,
Каб здзейсніў ўсё, што прыгадаў,
І у скарбонку Беларусі
Свае каштоўнасці паклаў.

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ, ветэран Вялікай Айчыннай вайны.**

*г.Слаўгарад.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Як палепшыць бюджэт

Доўга ўлада ў нас гадала,
Як палепшыць ёй бюджэт,
Бо ў бюджэце грошай мала,
Ён дзіравы, не сакрэт.
Прыняла такія меры:
Каб з бюджэтам лепш было,
Ходзяць хай пенсіянеры
На чырвонае святло…

## Нішто не знікае бясследна

Трэба ўлічваць да самае смерці
І адкінуць пры гэтым сумненні:
Што спрабуеце з памяці сцерці,
Застаецца на вашым сумленні…

## Слушная думка

Амаль ва ўсім мой сябар дока.
Пра медыкаў
Сказаў ён так:
– Які, па-мойму, дрэнны доктар?
Той, што купляе сам каньяк!

## Нядрэнная зарплата

– У нас нядрэнная зарплата, –
Сказаў рабочы ў мікрафон. –
Хоць жыць, прызнацца, цяжкавата
Апошніх дваццаць восем дзён.

## Алібі

Ён трымаўся каменем,
Пераконваў следчага:
– У забойстве вам мяне
Вінаваціць нечага:
Я ў сяброўкі Валі быў.
Так што справа дутая.
Ёсць другое алібі.
Хочаце валютаю?

## Расчараванне

Юнак за не пустым сталом
Сябрам выказваў гора:
– Вучобу скончыўшы, дыплом
Я атрымаў учора.
Пра той дыплом ад першых дзён,
Прызнацца, грэлі мары.
Разлічваў: мне адкрые ён
Усе шляхі й абшары!
Хутчэй дыплом займець абы!
Я проста дурань поўны,
Бо ўчора хоць студэнтам быў,
А сёння – беспрацоўны…

## Дзе логіка?

Так разважаў наіўны зэк:
– У нас прысуды – проста здзек.
Я бохан хлеба ўкраў,
І потым
Наканавалі жыць за дротам.
Цяпер жа мне зусім законна
Той бохан выдаюць штодзённа…

## Любімцы

Любімцы атэісты ў Бога:
Не просяць у Яго нічога…

## Рэпартаж

– Мы пачынаем рэпартаж
Са стадыёна прама,
Дзе матч "Рэал" (з Мадрыда аж!)
І мінскае "Дынама".
Лік на табло "трынаццаць – нуль",
Наперадзе – іспанцы.
Ды не бядуем мы пакуль,
Усё ў нас будзе ў глянцы –
Сумнення ў тым няма ані,
Не рве душу пакута,
Таму што йдзе ўсяго ў гульні
Чацвёртая мінута…

## Пераможца ў спрэчцы

Як многа сёння балбатні!
І ў нас калісьці так бывала:
Спрачаемся мы дзень пры дні,
І хоць карысці вельмі мала
Ад нашай балбатні пустой,
Яе ніяк мы не завершым.
Пераможца ў спрэчцы той,
Хто прапаноўваў выпіць першым…

ПРИНЦИПИАЛЬНАЯ ПОЗИЦИЯ

# Нашел деньги на коттедж – найди и на полную оплату газа

Пожилые белорусы жалуются на необоснованно высокие, по их мнению, тарифы на природный и сжиженный газ в садовых товариществах и домах в деревнях, где никто не прописан. Пишут письма в газеты, звонят на «горячие линии» министерств и исполкомов. Думаете, кто-либо из чиновников реагирует на их просьбы о снижении тарифов на природный газ? Нет, конечно! Нет прописки – нет и льгот. Так определено Совмином, то есть это сегодня законно, а значит, с точки зрения чиновников, правильно.



В то же время Министерство антимонопольного регулирования и Министерство жилищно-коммунального хозяйства разработали «Тарифную тетрадь», в которой прописаны новые тарифы на жилищно-коммунальные услуги на 2018 год. В этой тетради для индивидуальных домов тарифы на природный газ следующие:

до 3000 куб. метров – 0,1204 руб. за 1 куб. метр,

с 3000 по 5500 куб. метров – 0,1565,

свыше 5500 куб. метров – 0,4648.

Эта градация по объемам потребления и оплате введена давно, еще при мудром премьер-министре Михаиле Мясниковиче. В тот период долго и звонко обсуждался вопрос о том, что владельцы дорогих домов и коттеджей должны рассчитываться за природный газ по полному тарифу. Аргумент «за»: если хватило средств построить хороший коттедж, хороший дом – найдутся деньги и на оплату природного газа для его обогрева. Но наши чиновники видят далеко и думают не только о себе, но и о своих близких. Они приравняли себя к малообеспеченному сельскому населению, приравняли себя и свои большие строения к небольшим частным домам и домикам в городах страны и уже несколько лет потребляют природный газ гораздо дешевле его себестоимости. Градация объемов потребления газа властями подогнана под потребление за весь год 5500 кубических метров! Точно установлено, что 5500 кубометров природного газа на год достаточно для жилого помещения в 200–400 кв. метров общей площади и 100–170 кв. метров жилой площади. Никакие деревенские дома такие объемы газа не потребляют! А вот на обогрев коттеджей, думаю, столько газа и идет, особенно в наши нехолодные зимы.

Где справедливость?! Почему владельцы дворцов и хижин платят за газ по одинаковым тарифам? Имеешь возможность ездить на «Бентли» и попадать в аварию по своей вине – на здоровье, но за пользование природным газом плати по себестоимости. Не такая уж и высокая это цена для указанной категории граждан – 129 долларов за 1000 куб. метров с 1 января 2018 года. Уверен, что многие наши обеспеченные сограждане – люди порядочные и им эти льготы не нужны. К ним я отношу и владельцев «Бентли».

Все должно быть справедливо и понятно. А то у нас без конца идут разговоры о том, как заботливое государство дотирует потребление тепловой энергии малоимущим владельцам маленьких квартир в хрущевках, а о дотациях по природному газу коттеджей – полное молчание.

Еще одна хитрость в цене на газ. В «Тарифной тетради» указано, что при полном возмещении экономически обоснованных затрат цена за 1000 куб. метров природного газа составит в 2018 году 464 рубля. Вопрос: откуда такая цена? Если цена на границе будет 129 долларов за 1000 куб. метров, то почему гражданину Беларуси, то есть потребителю, газ продается по 232 доллара? Значит, граждане, в том числе и неимущие, дотируют, можно предположить, богатых, обеспеченных, пользующихся льготами на оплату газа? Или эти деньги идут на содержание газообслуживающих организаций? Но не может стоить более 100 долларов услуга по перемещению 1000 куб. метров газа внутри страны. Еще один абсурд.

За откровенный и наглый обман государства чиновники должны нести ответственность. Или пусть глава государства разберется в вопросах тарифов и установит справедливый порядок расчетов за услуги по потреблению природного газа в нашей стране. Обеспеченные граждане пусть платят, как и положено, а не пристраиваются к малоимущим владельцам домовых строений.

**Василий ИВАНОВ, пенсионер.**

*Минск.*

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК.

## На спадабаўся санаторый

*Купіла пуцёўку ў санаторый, але мяне не задаволіла якасць аказаных там паслуг. Зразумела, што кампенсацыю я ніякую не атрымаю, але што рэальна можна зрабіць у такой сітуацыі?*

**Ірына ЛЯШКЕВІЧ, г.Касцюковічы.**

– Заявіце патрабаванні з прэтэнзіяй. Дарэчы, маеце права нават запатрабаваць кампенсацыю маральнага ўрону, і я параіў бы вам лепш звярнуцца да юрыстаў з таварыства абароны правоў спажыўцоў.

## На рынку не даюць касавы чэк

*На нашым адкрытым рынку прадаюць садавіну і гародніну, але не было ніводнага выпадку, каб нехта мне выдаў чэк. Хіба гэта правільна?*

**Алеся К., Мінск.**

– Безумоўна, няправільна, бо чэк – гэта дакумент, які пацвярджае факт пакупкі. Маеце поўнае права патрабаваць яго.

## У ёгурта – незвычайны прысмак

*Набыла ёгурт, які заўсёды купляю, але ў яго аказаўся нейкі незвычайны прысмак. Дзе можна праверыць тавар?*

**Алена КУЛІНІЧ, г.Маладзечна.**

– Звярніцеся ў санітарна-эпідэміялагічную службу вашага горада.

ВЗГЛЯД

# 1800 мест в зале, а Пинигину кресла не нашлось

Это были в чем-то даже уникальные гастроли. Одни-единственный спектакль – чеховскую "Чайку" в постановке главного режиссера Николая Пинигина – Купаловский театр показал в Китае пять раз в четырех городах: Гуаньчжоу, Сяньмыне, Чжухае и Цзинане. В итоге в Поднебесной купаловцы пробыли 20 дней ноября. Наши актеры работали в громадных зрительных залах – других в Китае просто нет, как нет и традиции психологического театра. Театральные здания там строятся для музыкальных спектаклей и симфонических концертов, приглашаются лучшие музыканты мира – Баренбойм, Нетребко, Мацуев... Пришлось приспосабливаться играть тонкий чеховский шедевр практически в футуристических ангарах. Правда, начиненных фантастически хорошей театральной аппаратурой.

Николай Пинигин, восхищенный и озадаченный одновременно, рассказывает о только что завершившихся гастролях Купаловского театра в КНР:

– Мы побывали на другой планете! Работать было трудно, потому что театральные залы огромные, не для драмы. Китайцы традиционно отдают приоритет музыкальному искусству, их театры почти везде так и называются – "опера-хауз". Как правило, это очень красивые современные архитектурные сооружения с уникальной акустикой и новейшим театральным оборудованием, поэтому каждое "ци-ши" слышно на огромном расстоянии вплоть до последнего кресла. И мы, естественно, работали на живом звуке, без микрофонов.

В городе Гуаньчжоу – центре легкой промышленности с населением в 18 миллионов человек (втором по величине городе Китая) – мы выступали в театре на 1800 мест. Но зал был полон под завязку, я даже не смог найти для себя место в зале. После спектакля нам кричали "Браво!" и "Ура!", брали автографы у артистов. Гуаньчжоу вообще резко отличается от, скажем, южных городов страны: он более европеизированный, там несколько университетов, там чувствуется, что выросло новое поколение китайцев, которое мощно идет вперед, учится. Из старшего поколения в театре я не видел никого. На спектакли к нам приходила молодежь – люди 30–35 лет.

О материальной стороне гастролей. Большую часть расходов взяла на себя китайская сторона. Мы жили только в 5-звездочных отелях, из города в город ездили по скоростным железным дорогам на суперпоездах или летали на самолетах. Так как декорации за нами следовали на автомобилях и на дорогу машинам требовалось 2–3 дня, то у артистов было время и отдышаться, и оглядеться, адаптироваться.

Почему Чехов? Это выбор организаторов гастролей. Во-первых, Антона Павловича Чехова китайцы изучают в школах. Во-вторых, поскольку у них очень мощно развивается экономика, они озабочены проблемами коммуникации с европейцами. Перед ними стоит такая задача: если мы хотим работать в Европе, мы должны знать культуру и ментальность ее жителей. И сейчас китайцы тратят большие деньги, чтобы воплотить в жизнь этот тезис.

**Елена МОЛОЧКО.**

АСОБА

# Жыў паэт на дзятлаўскай зямлі...

## *Да 80-годдзя з дня нараджэння Яўгена Мацвеева*

Да ягонага юбілею, які прыходзіцца на 2 снежня, рыхтаваліся ўсе. Супрацоўнікі раённай бібліятэкі афармілі выставу "Вялікі чалавек Навальненскай зямлі": пра жыццё і творчасць Яўгена Мацвеева распавядаюць фотаздымкі, зборнікі вершаў... З Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея прывезлі выставу драўляных скульптур аўтарства Яўгена Аляксеевіча – сапраўдных мастацкіх твораў. На адным са стэндаў музея Навальненскай сярэдняй школы, дзе і праходзіла юбілейнае мерапрыемства, напісаны радкі з верша Яўгена Мацвеева:

*Нелегок у поэта хлеб, и не всегда он белый,*
*Нередко жалок и нелеп ты в мире оголтелом,*
*Зато в стихах твой мир глубок, бьет чувств волна живая.*
*...Блаженным благоволит Бог, в их души свет вливая.*

Бадай, найбольш зрабілі для ўшанавання паэта настаўнікі і вучні Навальненскай сярэдняй школы, якіх накіроўвала і натхняла настаўніца Тамара Крывеня. Трэба было бачыць і чуць, як хораша хлопцы-старшакласнікі чыталі вершы Яўгена Мацвеева, расказвалі пра яго жыццёвы і творчы шлях. І вучаніцы малодшых класаў, такія прыгожыя, эмацыянальныя, таксама з хваляваннем чыталі вершы паэта. У многіх прысутных на вочы навярнуліся слёзы.

Таленавіты доктар, мастак... А яшчэ і артыст і стваральнік у Навальні народнага самадзейнага тэатра. У спектаклях удзельнічалі супрацоўнікі рэспубліканскага туберкулёзнага санаторыя "Навальня", дзе працаваў Мацвееў, і многія жыхары пасёлка. Са спектаклем "Раскіданае гняздо" артысты шмат гастралявалі.

Яўген Аляксеевіч арганізаваў і ўзначаліў літаратурнае аб'яднанне пры рэдакцыі раённай газеты "Перамога". Дапамагаў развівацца маладым талентам, бо разумеў, як важна для творчай душы рэалізавацца, данесці да чытача свае роздумы і пачуцці.

Ён доўгі час не мог выдаць кнігу вершаў і з горыччу пісаў:

*І за какие же грехи*
*Сидят в тюрьме мои стихи?*

І толькі ў 1997 годзе ўбачыў свет яго зборнік пад назвай "Укажет сердце мне дорогу". Вялікую дапамогу і падтрымку ў гэтай важнай справе аказалі жыхары райцэнтра Эдуард Кулеш, Пётр Кучынскі, Сяргей Чарнікевіч, Станіслаў Жульпо. Яўген Аляксеевіч быў бязмерна ўдзячны ім.

Потым грошы на выданне таленавітых вершаў Мацвеева выдзяляў Дзятлаўскі райвыканкам, а два апошнія – сёмы і восьмы зборнікі – выдалі пасля смерці аўтара яго жонка і сын.

Рускі чалавек, які нарадзіўся ў невялічкай латвійскай вёсцы Ракітня (зараз – Пскоўская вобласць Расіі), ён усім сэрцам палюбіў Беларусь. І тады, калі вучыўся ў Мінскім медыцынскім інстытуце, і тады, калі прыехаў працаваць у Навальню, беларуская прырода, звычаі, мова нашага народа сталі яму блізкімі і дарагімі. Яўген Аляксеевіч валодаў нашай чароўнай, мілагучнай моўай дасканала, бо лічыў, што жыць у краіне і не ведаць яе мовы проста ганебна. І думаецца: а ці многія беларусы, што нарадзіліся і ўсё жыццё жывуць у Беларусі, ведаюць яе так, як ведаў ён, рускі чалавек?

Аповед пра Яўгена Мацвеева суправаджаўся жывой музыкай, песнямі, якія разам з выканаўцамі спявалі ўсе прысутныя. На вялікі экран экспанаваліся фотаздымкі – Яўген Аляксеевіч у розныя гады, з сям'ёй, з сябрамі, дзівосная беларуская прырода. Таксама быў паказаны відэазапіс інтэрв'ю, якія Тамара Уладзіміраўна Крывеня брала ў людзей, што добра ведалі цудоўную сям'ю Мацвеевых. Усе як адзін казалі, што Яўген Аляксеевіч быў вельмі добразычлівы, сціплы, спагадлівы чалавек, ніколі не адмаўляў у дапамозе. Упраравень яму была і жонка Ніла Іванаўна – таксама доктар, вельмі адукаваная, прыгожая жанчына. Сваёй прафесіяй яны зацікавілі і сына Алега, які ўжо шмат гадоў лечыць людзей.

З уласнымі вершамі, прысвечанымі Мацвееву, выступілі Раіса Лакіза, Вера Хрышчановіч, добры твор прачытала Лідзія Нічыпар. Георгій Шундрык і Алена Абрамчык прачыталі свае пераклады мацвееўскіх вершаў на беларускую мову.

Прыехалі на гэта мерапрыемства і сябры Яўгена Аляксеевіча з Мінска, Полацка, Гомеля. Яны таксама выступілі з успамінамі, прачыталі свае творы.

Пабывалі мы і на Навальненскіх могілках, дзе побач са сваімі матулямі знайшлі вечны спачын Ніла Іванаўна і Яўген Аляксеевіч. Усклалі кветкі, сказалі добрыя словы светлай памяці.

Гэтым летам на Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў імя Яўгена Мацвеева было занесена ў Кнігу гонару Дзятлаўскага раёна, якая знаходзіцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі.

42 гады з адведзеных яму лёсам 67 пражыў Яўген Аляксеевіч у Навальні і амаль да апошняга працаваў.

...Калі мы вярталіся ў Дзятлава, Георгій Шундрык з сумам сказаў:

– Вельмі шкада, што ён пайшоў з жыцця так рана. Колькі яшчэ мог бы напісаць цудоўных вершаў і наогул дапамагчы людзям!..

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**





**На здымках:** *Удзельнікі мерапрыемства (злева направа) Валерый Петрыкевіч, Георгій Шундрык і Фёдар Красюк ля Навальненскіх могілак, дзе пахаваны Яўген Мацвееў.*

*Дом у Навальні, дзе жыў паэт.*

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ



## Прыйшоў на вяселле наш сваток

Словы і музыка народныя.

Прыйшоў на вяселле наш сваток,
Павязаўшы крыжам ручнічок. } 2 разы

Аж казалі: сват наш вельмі харош,
Аж у свата доўгі буслаў нос… } 2 разы

Аж у свата лыса галава
Ды казліна рыжа барада. } 2 разы

Плавае па хаце, як таран,
Лыпае вачыма, як баран. } 2 разы

Калі, сват, гарэлкі не дасі,
Караваю трасцу ты з'ясі. } 2 разы

Прыйшоў на вяселле наш сваток,
Павязаўшы крыжам ручнічок. } 2 разы

ВЫСТАВА

# Памяці святароў...

*Сёння ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрываецца выстава "Святы крыж супраць свастыкі", прысвечаная супраціўленню каталіцкіх і праваслаўных святароў у перыяд гітлераўскай акупацыі.*

Выстава раскажа пра каталіцкіх і праваслаўных святароў, якія на беларускіх землях удзельнічалі ў супраціўленні гітлераўскім акупантам, супрацоўнічалі з падполлем, ратавалі яўрэяў, падтрымлівалі і бескампрамісна станавіліся на абарону мясцовага насельніцтва, падчас цаной уласнага жыцця. Многія святары, постаці якіх прадстаўлены ў рамках выставы, праз сваю дзейнасць загінулі пакутніцкай смерцю – у Калдычаўскім лагеры смерці або на тэрыторы сваіх прыходаў, выконваючы штодзённыя абавязкі.

Каталіцкіх святароў, якія сталі ахвярамі фашызму, ацаніў Папа Рымскі Іаан Павел ІІ, прылічыўшы многіх пакутнікаў беларускай зямлі да ліку благаслаўленых. Некалькі з іх атрымалі таксама ганаровае званне Праведнікаў народаў свету. І праваслаўныя святары неаднаразова ўзнагароджваліся медалямі за ахвярную службу і дапамогу партызанам у барацьбе з акупантамі. Іх памяці прысвечана гэта выстава.

*Адкрыццё выставы "Святы крыж супраць свастыкі" адбудзецца 12 снежня ў 17.00.*

МЕДИЦИНА

# Смогут ли ученые выращивать новые сердца в лабораториях?

*Не прошло и 50 лет, как пересадка сердца, впервые сделанная доктором Кристианом Барнардом, стала вполне рутинной процедурой. Но как будет развиваться медицина дальше? На что будут способны кардиохирурги в будущем?*

Смогут ли ученые выращивать новые сердца в лабораториях? Или же кардиохирурги смогут использовать генетически модифицированные сердца животных для пересадки в тело человека?

Скорость прогресса в медицине поражает.

*«Я попал в эту ловушку, когда в первый раз увидел пересадку сердца в 1986 году. Мне было 18 лет,* – говорит **Андре Симон**, глава отделения трансплантации сердца и легких при больнице Харфилд в Лондоне. – *Там было два хирурга. Я видел, как они завязывают узлы, но их пальцев не было видно – так быстро они работали. Это было одновременно странно и удивительно. К тому времени уже заканчивалась «ковбойская» эпоха в кардиохирургии. Это были другие времена. Я помню, что в офисе тогда повсюду были окурки и пустые бутылки пива. Но с тех пор все изменилось. Стало гораздо лучше, потому что сейчас мы можем делать вещи, которые были недоступны нам тогда. Но мы частично потеряли способность раздвигать границы возможного. А раздвигать границы необходимо, так как число донорских органов – около 200 в год по всей Великобритании – в разы меньше, чем требуется. Каждый год около 2 тысяч человек моложе 65 лет умирают от сердечной недостаточности, так как не могут дождаться донорского сердца».*

Исследователи теперь надеются, что смогут использовать стволовые клетки для того, чтобы выращивать в лаборатории сердечные мышцы.

*«Для того чтобы вырастить целое сердце, необходимы сотни миллиардов клеток,* – говорит доктор **Дорис Тэйлор**, директор Центра биотехнологии клеток и органов при Техасском институте сердца в Хьюстоне. – *И мы это уже можем делать... Моя цель – создать в течение ближайшего полугода два или три сердца, чьи мышцы сокращались бы с достаточной частотой, чтобы их можно было пересадить большому животному, скажем, корове».*

Доктор Тэйлор и ее коллеги работают со свиньями. Они извлекают клетки из мышечной ткани сердца этих животных, а затем выращивают новые сердца при помощи стволовых клеток.

Они надеются, что в обозримом будущем им удастся присоединить выращенное сердце к больному, чтобы со временем новое сердце, сделанное в лаборатории, взяло на себя всю нагрузку.

*«Мы обнаружили, что (стволовые) клетки приобретают характеристики той части тела, в которой они оказываются»,* – говорит доктор Тэйлор.

Но кардиоторакальный хирург **Джон Дарк** предупреждает, что все это может оказаться ложными надеждами. *«В прошлом мы видели, как у людей появлялись очень интересные идеи,* – говорит он. – *20 лет назад мы все думали, что вот-вот сможем брать органы свиней и прибегать к ксенотрансплантации. И хотя в этой области многое было достигнуто, мы до сих пор не добились результатов. 10 лет назад многие говорили о возможности использования стволовых клеток для лечения сердечных мышц. Но результаты клинических исследований не оправдали надежд: функции сердца улучшались лишь на несколько процентов».*

Альтернативой выращивания сердец в лаборатории остается улучшение существующих устройств, которые помогают пациентам оставаться живыми до тех пор, пока не найдется необходимый трансплантат. Так, например, сердечная помпа, которая помогает левой стороне сердца исполнять свои функции, еще недавно была громоздким аппаратом, который подсоединяли к телу человека. Сейчас это маленькое устройство, работающее на батарейке, которое можно вживить в грудь человека. Во время первого года работы это устройство дает эффект не хуже, чем пересадка сердца.

С каждым годом эти устройства совершенствуются и работают все лучше, но при этом остается риск инфекций. Жить с таким устройством также непросто.

Возможно, следующим шагом в развитии этой области медицины станут механические сердца? Андре Симон думает, что да. *«Я могу себе представить такое устройство, и если оно будет производиться массово, то оно будет достаточно дешевым,* – говорит он. – *Это будет как кардиостимулятор – его можно будет приобрести, как новый iPhone. Нам следует лишь добиться того, чтобы это устройство не приводило к образованию тромбов или инсульту и чтобы оно работало на все 100 процентов».*

Кроме того, сейчас исследователи пытаются найти способ сохранять сердце донора на более длительный период времени. На данный момент пересадка сердца должна осуществляться в первые три часа после получения органа, в противном случае оно может не прижиться. Сейчас сердце донора останавливают и держат во льду. Но недавние эксперименты показали, что если все еще бьющееся сердце наполняется теплой кровью, то его можно хранить вне тела гораздо дольше – до 12 часов.

Ученые надеются найти возможность хранить сердца доноров вплоть до одного месяца. Это в свою очередь облегчит процесс предоставления пациентам подходящих для них сердец.

Скорее всего, в будущем процесс пересадки сердец будет улучшен не благодаря какому-то одному открытию, а комбинации разных открытий.

Последние 50 лет доказали: то, что еще недавно казалось невозможным, становится обыденным.

**Кевин ФОНГ,**
**консультант-анестезиолог при больнице Университетского колледжа Лондона.**

РЭДКІ ВЫПАДАК

# Унікальны футбаліст з «МакДональдса»

## *Ноччу Аляксей ДРАЧОЎ працаваў у рэстаране, а днём гуляў за каманду “Крумкачы”.*

Аднойчы падчас візіту ў Мінск галоўны трэнер зборнай Люксембурга распавёў, што за нацыянальную каманду выступаюць не толькі прафесіяналы, але і аматары – паштальёны, банкаўскія служачыя, настаўнікі. Адным словам, людзі, якія гуляюць за нацыянальную каманду, але пры гэтым дзе-небудзь працуюць альбо вучацца.

У Беларусі ўсе футбалісты вышэйшай лігі лічаць сябе стопрацэнтнымі прафесіяналамі і зарабляюць на жыццё толькі футболам. Праўда, у выніковай табліцы адборачнага турніру да чэмпіянату свету люксембургскія “паштальёны” аказаліся вышэй за беларускіх “профі”, якія занялі апошні радок.

Выпадак з Аляксеем Драчовым – рэдкае выключэнне. І размаўляем мы з ім менавіта ў “МакДональдсе”, дзе Аляксей займае пасаду інструктара вытворчага навучання ў начную змену…

*“Я не ведаю больш ігракоў у нашым першынстве, якія ў вольны ад футбола час працавалі б гэтак жа паўнацэнна, як я,* – кажа суразмоўца. – *Увогуле, у мяне плаваючы графік працы – у сярэднім трэба за месяц адпрацаваць 18–20 змен. Работа толькі ноччу – у мае абавязкі ўваходзіць прафесійна-тэхнічнае абслугоўванне абсталявання і навучанне новых работнікаў. Адным словам, рыхтуем рэстаран да ранішняга адкрыцця”.*

Аляксей скончыў Універсітэт фізкультуры па спецыяльнасці “трэнер па футболе, выкладчык па фізічнай культуры”, але трэнерам працаваць не захацеў.

*“Неяк адна высокая дзяржаўная чыноўніца заявіла, што 130 рублёў для маладога спецыяліста – гэта нармальныя грошы,* – пры гэтых словах мой суразмоўца ўсміхаецца. – *Я на гэты конт маю іншае меркаванне. Безумоўна, пасля заканчэння ўніверсітэта мяне маглі б пэўны час падтрымліваць фінансава бацькі, але, на маю думку, здароваму хлопцу павінна быць сорамна казаць маці: “Дай грошай”. Таму спачатку працаваў у лагістычным цэнтры на складах, затым падаўся ў “МакДональдс”, застаюся там ужо чацвёрты год. Не так даўно сустракаліся з аднакурснікамі, распавядалі, хто і дзе ўладкаваўся. Нехта працуе выкладчыкам фізкультуры ў школе, хтосьці буцы прадае ў магазіне…”*




Да апошняга часу хлопец гуляў у аматарскай футбольнай лізе, але неяк убачыў на адным спартыўным рэсурсе інтэрв’ю заснавальніка “Крумкачоў” Дзяніса Шунто. Той скардзіўся, што ў дубліруючым складзе “Крумкачоў” не хапае ігракоў.

*“Вырашыў прапанаваць сваю кандыдатуру,* – успамінае футбаліст. – *Прыйшоў на прагляд на трэніроўку, залічылі ў склад каманды. Шчыра кажучы, фінансавы бок мяне не вельмі цікавіў, а апошнія два гады я наогул гуляў практычна бясплатна. Мінімальна нешта атрымліваў, але, калі ездзіў на сваёй машыне на трэніроўкі, то заробак нават не “адбіваў” страты на бензін. Аднак для мяне куды больш важны быў сам футбольны працэс. Сёлета дэбютаваў у вышэйшай лізе і ў матчы з “Віцебскам” правёў на полі ўсе 90 хвілін. Дарэчы, вынік быў нічыйны – 2:2. Фізічна складана давялося, таму што днём раней гуляў і за дубліруючы склад каманды. Добра яшчэ, што напярэдадні ў рэстаране далі два выхадныя, хаця такое шчасце выпадае не заўсёды. На працу я прыходжу ў 23.00, змена – да 7 гадзін раніцы. Памятаю, гулялі ў гасцях з брэсцкім “Дынама”, матч быў адразу пасля работы. Таму паспаць удалося толькі ў аўтобусе па дарозе ў Брэст”.*

У “МакДональдсе” нармальна ўспрынялі сітуацыю, што іх работнік будзе выступаць у вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі па футболе, і з гэтай нагоды нават жартуюць.

*“Некаторыя кажуць: вось, маўляў, якія футбольныя кадры ў рэстаране падрыхтавалі!* – працягвае Аляксей. – *Сачылі за маім дэбютам, натуральна, што ў “Крумкачоў” з’явіліся новыя балельшчыкі. А хтосьці і да гэтага часу не ведае, што я яшчэ і футбаліст. Зрэшты, у “МакДональдсе” цудоўны калектыў, і ўсе мяне падтрымліваюць. Дарэчы, у “Крумкачах” атмасфера таксама неверагодна цудоўная. Ва ўсіх няма грошай, усе ў аднолькавым становішчы. І гэта, відаць, моцна аб’ядноўвае. Асабіста я восем месяцаў зусім не атрымліваў заробак, але ж у мяне была асноўная работа, якая і прыносіла даход. Хаця мне цяжка ўявіць, як можна наогул жыць без грошай. Таму ж украінскаму легіянеру Яраславу Багунову трэба было і кватэру ў Мінску здымаць, і харчавацца… Магчыма, клуб дапамагаў нейкім чынам. Кіраўніцтва абяцае, што знойдзе фінансы, але ж дакладна не вядома, як будуць далей разгортвацца падзеі. Але, калі з іншага боку паглядзець на сітуацыю, то “Крумкачы” не дзяржаўныя грошы выкарыстоўваюць, а разлічваюць толькі на свае сілы. Натуральна, даводзілася складана. І футбалісты разумелі сітуацыю, гатовы былі дацярпець да канца сезона. Дарэчы, нягледзячы на тое, што “Крумкачы” ў гэтым сезоне часцей прайгравалі, чым атрымлівалі перамогі, балельшчыкі падтрымлівалі нас да канца і ніколі, што называецца, не грукалі палкамі ў вокны”.*

Кантракт з клубам у Аляксея Драчова закончыўся 30 лістапада, але ён гатовы выступаць за “Крумкачоў” і далей.

*“Калі буду запатрабаваны, то рады дапамагчы камандзе,* – кажа ён. – *Калі не, то сканцэнтруюся на працы ў “МакДональдсе”. Тым больш што заробкі там разоў у 14 большыя, чым у “Крумкачах”…*

**Алесь СІВЫ.**




ДЕЛИМСЯ ОПЫТОМ

## Картофель не болеет

Семенные клубни картофеля сразу же после уборки мою в крепком растворе марганцовки. Затем раскладываю их на несколько дней на солнце. Когда поверхность их слегка позеленеет, убираю для хранения в подвал: там температура 3–5 градусов.

Весной за месяц до посадки достаю картофель из подвала для проращивания. Замачиваю его в ванне при комнатной температуре. Это, на мой взгляд, необходимо, так как за время хранения клубни теряют много влаги. Затем раскладываю их на свету в два слоя на полиэтиленовой пленке. Влажность в помещении низкая, а температура 24 градуса, поэтому каждый день обильно смачиваю их один-два раза из пульверизатора.

Через две недели проращивания обрабатываю картофель микроэлементами. Для этого насыпаю пятую часть литровой банки золы, доверху наливаю воду и настаиваю сутки. Затем воду сливаю и опрыскиваю этим раствором картофель.

Еще через неделю второй раз опрыскиваю. Для этого в 10 литрах воды растворяю медный купорос, борную кислоту, марганцовку (по ½ чайной ложки).

На сотку земли с осени вношу 600–700 граммов навоза, а весной – три трехкилограммовых пакета нитроаммофоски.

Клубни высаживаю на глубину 8–10 см, дважды окучиваю их и, если стоит сухая погода, два раза поливаю. Один раз – при появлении бутонов, второй раз – через неделю.

При такой подготовке клубней к посадке картофель ничем не болеет. Урожай всегда высокий.

**Александр РУДАКОВ.**

*Гродно.*



ОГОРЧАЕМСЯ НЕУДАЧЕЙ

## Капуста меня не радует

***Органических удобрений у меня нет, поэтому капусту выращиваю только на минеральных. Да и почва для нее, видимо, не подходит. Возможно, это и является причиной низких урожаев. А что ей нужно, расскажите, пожалуйста.***

**Юлия МАКАРЕВИЧ.**

*г.Барановичи.*



Белокочанную капусту лучше выращивать на легкосуглинистых и супесчаных почвах; торфяники и тяжелосуглинистые почвы для нее малопригодны.

Ранние сорта капусты по сравнению с поздними сильнее поражаются килой, поэтому их необходимо выращивать на незакисленных почвах с pH 6,5–7,2.

На среднеокультуренных дерново-подзолистых почвах ранняя капуста хорошо отзывается на применение органических удобрений, внесенных с осени. Если органические удобрения осенью не вносились, то вносят перегной из расчета 200–300 г в лунку.

Средние и поздние сорта белокочанной капусты характеризуются очень высоким потреблением питательных веществ в течение длительного времени, поэтому они требуют обильного удобрения на протяжении всего периода вегетации. Поздние сорта капусты потребляют много влаги, поэтому хорошо растут на увлажненных суглинистых и торфяных почвах при поливе.

Оптимальная реакция почвенной среды для средних и поздних сортов капусты на подзолистых и дерново-подзолистых почвах 6,6–7,5, на торфяниках – 5,0–5,5. Капуста хорошо отзывается на известь, которую можно вносить непосредственно под растения осенью или весной за 2–3 недели до посадки.

Средние и поздние сорта белокочанной капусты почти на всех почвах (кроме низинных торфяников) хорошо отзываются на внесение органических удобрений. Однако один навоз не может в достаточном количестве обеспечить капусту питательными веществами, так как разложение навоза в почве и высвобождение из него доступных для растений элементов питания происходит медленнее, чем возрастает потребность растений в питании. Вследствие этого капуста растет лучше при совместном внесении под нее органических и минеральных удобрений, особенно азотных.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## А вы застраховали дачу?

Как правило, страховые компании предлагают стандартный набор так называемых страховых случаев и соответствующее им возмещение ущерба. Стандартный пакет случаев включает пожар, противоправные действия третьих лиц (разбитые стекла, изуродованные двери или оконные рамы и т.д.), кражу, стихийные бедствия (наводнение, ураган, землетрясение), падение деревьев на крышу.

Нелишне застраховать и движимое имущество (мебель, бытовую технику). Подскажем маленькую хитрость. Можно оценить все имущество, скажем, в три тысячи рублей. И если нехороший человек украдет ваш любимый телевизор, возмещения от компании можете и не дождаться – оставшееся имущество без телевизора запросто будет оценено в те же три тысячи. Поэтому советуем отдельно указать ценные вещи (телевизор, холодильник, пылесос) и зафиксировать в договоре их стоимость. Включите в перечень имущества и дорогой инвентарь – мотоблок, газонокосилку, деревообрабатывающий станок.

Если позволяют средства, обезопасьте и другие строения на участке – хозблок, гараж, баню. Правда, тариф за баню выше, чем за дом, – риск потерять ее в результате пожара, согласитесь, выше.

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО…

## Есть навоз – будет урожай

В защитном грунте в качестве биотоплива или удобрения лучше использовать соломистый навоз крупного рогатого скота или конский.

***

Жидкий навоз и куриный помет больше всего подходят для жидких подкормок и для приготовления компостов.

***

Перегной – очень ценное органическое удобрение, получаемое в результате полного разложения навоза. Вносить его можно под все культуры из расчета 40–60 кг на 10 кв. метров.

***

Торфофекальные компосты можно использовать не раньше, чем через 9–12 месяцев после их закладки. При этом овощи, получаемые с участков, где вносились такие компосты, нужно обязательно тщательно мыть перед употреблением горячей водой.

Торфофекальные компосты лучше всего использовать под томат, огурец, тыкву, горох, но крайне нежелательно под листовые культуры (салат, щавель, шпинат, петрушку и др.).

***

Навоз содержит все необходимые растениям элементы питания. Наиболее богаты ими конский навоз и птичий помет.

***

Под картофель обязательно нужно вносить органические удобрения – навоз, компосты, торф, зеленые удобрения: они улучшают условия воздушного питания растений.

***

В навозных буртах все семена сорняков отмирают за летний период: при температуре 30–50°C – за два месяца; при 30°C отмирает часть семян; при 10°C семена не отмирают. На поверхности бурта за два месяца отмирает 80 процентов семян.

СЕМЕЙНАЯ ФЕРМА

## Чем кормить овец зимой

Чтобы приучить овец к зимнему корму, начинают давать им солому на ночь. Следует каждый день прибавлять к соломе и другой сухой корм. Вместе с тем необходимо с каждым днем выгонять овец на более короткое время в поле, так как в осенние дни роса высыхает плохо.

Не все сорта соломы годны для овец. Так называемая чисто вымолоченная солома, имеющая в себе мало зерен и других мелких частиц, менее пригодна для их корма. Лучше всего житная солома, затем пшеничная, овсяная и ячменная. Наиболее питательная солома получается из стручковых растений, а именно: гороха, бобов, вики, гусиного или мышиного гороха и гречихи. Важно, чтобы солома была вовремя сжата, то есть не перестояла в поле и не перезрела. Чем старее солома, тем более тверды ее волокна, и потому она менее питательна. Вот почему до половины зимы нужно давать в корм больше соломы, чем сена.

При отсутствии сена простым овцам дают барду, картофель, хорошо перетертую гороховую солому, мериносовым овцам – смесь ржаной соломы с сеном.

Чем больше овцы будут получать сочного корма (огородную зелень), тем легче содержать их зимой без сена. Солома может тогда заменить его. При этом необходимо делать исключение для молодых и годовалых ягнят, требующих большего и лучшего корма, чем старые овцы. В случае же отсутствия сена его можно заменять густой бардой, но только на короткое время и в крайних случаях. Вообще же оставлять овец совсем без сена рискованно для их здоровья.

**Раздел ведет агроном Федор ВЕРАВОЙША.**

МАЗАІКА

## Разбіліся на пары

*Учора прайшла жараб’ёўка 1/8 фіналу Лігі чэмпіёнаў па футболе.*

Сфарміраваліся наступныя пары: “Ювентус” (Італія) – “Тотэнхем” (Англія), “Базэль” (Швейцарыя) – “Манчэстар Сіці” (Англія), “Порту” (Партугалія) – “Ліверпуль” (Англія), “Севілья” (Іспанія) – “Манчэстар Юнайтэд” (Англія), “Рэал” (Мадрыд, Іспанія) – ПСЖ (Францыя), “Шахцёр” (Украіна) – “Рома” (Італія), “Чэлсі” (Англія) – “Барселона” (Іспанія), “Баварыя” (Германія) – “Бешыкташ” (Турцыя).

Матчы 1/8 фіналу пройдуць 13–14, 20–21 лютага, гульні ў адказ – 6–7 і 13–14 сакавіка.

Нагадаем, што фінал пройдзе 26 мая ў Кіеве.

## Згубіў патроны

*На этапе Кубка свету ў аўстрыйскім Хохфільцэне беларусаў знялі з дыстанцыі падчас мужчынскай эстафеты.*

На старце беларускі біятланіст Максім Варабей спачатку зачапіўся лыжай за нагу саперніка і паваліўся. Магчыма, у выніку гэтага падзення спартсмен згубіў патроны, бо на другім агнявым рубяжы папрасіў патроны ў суддзяў.

Усё гэта прывяло да таго, што на трэцім этапе лідары абагналі беларусаў на кола, і арганізатары знялі нашых біятланістаў з гонкі.

## Назбіралася…



*Футбольны барысаўскі БАТЭ сёлета зарабіў у еўракубках 4,2 млн еўра.*

За ўдзел у кваліфікацыі Лігі чэмпіёнаў (у 2-м і 3-м раўндах) барысаўчане атрымаюць 740 тысяч еўра. У групавы раўнд каманда **Аляксандра Ермаковіча** не трапіла, за што яна мусіць атрымаць “выплату салідарнасці”, а гэта яшчэ 260 тысяч еўра.

За тое, што БАТЭ патрапіў у групавы раўнд Лігі Еўропы беларускі клуб зарабіў 2,6 млн еўра. Там каманда набрала 5 ачкоў (дзве нічыі і адна перамога), а гэта яшчэ 600 тысяч еўра (240 і 360 тысяч).

Такім чынам барысаўчане зарабілі ў еўракубках прыблізна столькі грошай, колькі складае іх гадавы бюджэт.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
**nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info**

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 11.12.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 020 экз. Заказ № 4633.

9 772071 964000 17098